КУЛЬТУРА ▸ ГРАМАДСТВА ▸ ЭКАНОМІКА ▸
ЛЮДЗІ ▸ ПАДЗЕІ ▸ ФАКТЫ

◂ № 42 (314) ◂ 2 лістапада ◂ 2012 г.
www.novychas.org

# Новы Час

ISSN 2218-2144



ВАЛЯНЦІН АКУДОВІЧ

Стар. 14

**ЧЫЯ РЭАЛЬНАСЦЬ БОЛЬШ РЭАЛЬНАЯ?**

Калі інтэлектуалаў адхіляюць ад удзелу ў палітычным жыцці, яны асуджаны на распрацоўку абстрактных тэорый

Стар. 4

**УЛАДЗІМІР ЦІМАШЭВІЧ: АЛЬТЭРНАТЫВЫ НЕ БЫЛО**

Шлях Польшчы ў Еўрасаюз і яе сённяшнія дасягненні — гэта шлях Беларусі, які мы не прайшлі, таму што аднойчы зрабілі не той выбар. Прапануем вашай увазе інтэрв’ю з вядомым польскім палітыкам, экс-прэм’ерам і экс-міністрам замежных спраў, дзеючым сенатарам Уладзімірам Цімашэвічам

Стар. 5–12

**ЦЭНЗУРА ДЛЯ ФЮРЭРА**

Стар. 11

**ЧЫТАЙЦЕ Ў НАСТУПНЫМ НУМАРЫ!**

**ПРА МАКСІМА ТАНКА І ЛАРЫСУ ГЕНІЮШ**

Нарыс Міхася Чарняўскага

▸ З НАГОДЫ

# ЦЯЖКІ ГРУЗ ДЭМАКРАТЫІ

Вольга ХВОІН

**Палітычная кампанія ва Украіне — 28 кастрычніка абіралі дэпутатаў парламента — абяцае працягвацца ў традыцыйным для гэтай дзяржавы рэчышчы: скандалы, інтрыгі, сенсацыі... Разам з тым сацыялагічныя даследаванні і агульная атмасфера ў краіне паказваюць, што людзі зняверыліся як ва ўладзе, так і ў апазіцыі (тым больш, што яны паспелі памяняцца за кароткі час месцамі) і шукаюць сабе трэцюю, альтэрнатыўную, сілу.**




У адрозненне ад Беларусі, ва Украіне галасы лічаць павольна. Так, толькі на трэці дзень было апрацавана 98,01% пратаколаў. Паводле інфармацыі Цэнтрвыбаркама Украіны, у Вярхоўную Раду Украіны патрапяць прадстаўнікі наступных палітычных сілаў: за кіруючую Партыю рэгіёнаў прагаласавалі 30,23% выбаршчыкаў, за ВА «Бацькаўшчына» — 25,37%, за партыю «УДАР» Віталя Клічко — 13,86%, за Камуністычную партыю Украіны — 13,26%, за УА «Свабода» — 10,35%.

Нацыянальны exit-poll–2012 паказаў блізкія да ЦВК вынікі: Партыя рэгіёнаў — 28,6% галасоў выбаршчыкаў, аб’яднаная апазіцыя «Бацькаўшчына» — 24,7%, партыя «УДАР» Віталя Клічко — 15,1%, Камуністычная партыя Украіны — 11,8%, УА «Свабода» — 12,3%.

Цікава, што партыя-пачатковец «УДАР» з першай спробы патрапіла ў парламент. Натуральна, з аднаго боку гэтаму спрыяла асоба яе лідара — вядомага баксёра Віталя Клічко. З другога — аналітыкі тлумачаць такое волевыяўленне грамадзянаў іх спробаю знайсці альтэрнатыву палітыкам, якія нясуць расчараванні. Хаця усеагульны апатычны стан быў відавочны: запалу і агеньку ў вачах, з якімі ўкраінцы рабілі сваю «памаранчавую рэвалюцыю» ў 2004 годзе, і блізка не было. Людзі прагнуць вырашэння іх сацыяльных праблем, палітыкі ж прапануюць прыгожы папулізм.

«Адносіны да палітычнага жыцця скептычныя, бо большасць мяркуе, што выбары не будуць сумленныя, што выбары нічога не зменяць, удзел у іх таксама ні на што не паўплывае. Ёсць стан агульнай расчараванасці ў выбарах, у палітыцы, у даверы да палітыкаў, — распавяла напярэдадні «дня Х» украінскі сацыёлаг, спецыяліст у галіне палітычнай і электаральнай сацыялогіі Ірына Бекешкіна. — Менавіта таму гэтыя выбары, нягледзячы на жорсткую барацьбу ў мажарытарных акругах, праходзілі вяла. Напрыклад, за месяц да выбараў крыху больш за палову апытаных у межах сацыялагічнага даследавання грамадзянаў ведалі, што будзе дадатковы бюлетэнь з мажарытарнымі кандыдатамі, а сярод тых, хто планаваў пайсці на выбары, пра гэта не ведалі 17 працэнтаў увогуле».

Тым не менш нізкая абазнанасць у палітычным працэсе не перашкодзіла ўкраінцам пайсці і выказаць сваю пазіцыю (паводле інфармацыі ЦВК, яўка на парламенцкіх выбарах склала блізу 58%, што лічыцца нармальнай актыўнасцю грамадзянаў). Сацыёлаг Ірына Бекешкіна гаворыць, што пры ўсёй расчараванасці ўкраінцы не гатовыя да байкоту ці ігнаравання выбараў. «Гэта дакладна нічога не можа даць, бо калі я не пайшла на выбары, то сама сабе заткнула рот», — аргументуе эксперт і свой візіт на выбарчы ўчастак.

Можна сказаць, што бліжэйшым часам Украіну чакаюць новыя неспадзеўкі ў палітычным моры, якое, у супрацьвагу беларускаму, бруіць і хвалюецца, нібы падчас шторму. Ужо ў ноч пасля выбараў прадстаўнікі палітычных сілаў па тэлебачанні ў прамым эфіры бурна абмяркоўвалі магчымасці імпічменту для прэзідэнта Віктара Януковіча, разважалі, у каго якія шанцы на аб’яднанне і стварэнне кааліцыі. Шчыра прызнацца, гэтая перадазіроўка галоснасці ды эмацыйнасці ўкраінскіх палітыкаў нават стамляе беларусаў, спакойных і не прывучаных да публічных скандалаў. А яшчэ ўпэўнена падводзіць да высновы, што мала займець дэмакратыю ў розных яе праявах. Трэба навучыцца цывілізавана карыстацца яе дабротамі.

Ёсць адзін цікавы аспект палітычнага жыцця і яго аналізу ў нашых паўднёвых суседзяў. Беларускія аналітыкі бачаць выразныя званочкі і ўхіл палітычнай сістэмы Украіны ў бок аўтарытарызму, гэтак званай «лукашынізацыі». Аргументы гэтай небяспекі — і парушэнні падчас выбараў, і абмежаванні для апазіцыі, і ўзмацненне прэзідэнцкай улады.

Аднак большасць украінскіх экспертаў (прынамсі, маіх суразмоўцаў) падкрэслівалі, што паўтарэнне «беларускай мадэлі» ва Украіне немагчымае. Гэтаму перашкаджаюць і наяўнасць багатых, уплывовых людзей, і падзел Украіны паводле геапалітычных прыхільнасцяў, і багатая на «гецьманшчыну» ўкраінская гісторыя.

«Цягнік аўтарытарызму тут ужо сышоў. Цяпер ва Украіне не толькі шмат багатых людзей, сфарміраваліся ліберальныя правілы для вядзення бізнэсу, але і вырасла пакаленне людзей, якія адчуваюць смак свабоды. І алігархі хутчэй аб’яднаюцца супраць сілы, якая захоча іх аслабіць, чым дазволяць стварыць адзіны цэнтр», — гаворыць палітолаг Святлана Кананчук.

Бліжэйшым часам ва Украіне будуць дзяліць міністэрскія партфелі, разбірацца, з кім і супраць каго можна сябраваць у Вярхоўнай Радзе, даказваць сваю рацыю ў выніках падліку галасоў. На Беларусь, хутчэй за ўсё, гэтыя эмацыйныя працэсы ніяк не паўплываюць. Аднак ёсць і меркаванні, што калі ўкраінская палітычная эліце ёсць чаму павучыцца ў беларускага кіраўніцтва, то ў нейкі момант той, каго беларускі лідар раіў праверыць на вашывасць, можа звярнуцца ў Беларусь па кансультацыі.

*У бліжэйшых нумарах «НЧ» мы прапануем нашым чытачам экспертныя ацэнкі і прагнозы наконт таго, як хутка па-за паўднёвымі межамі Беларусі адбудзецца вызначэнне з геапалітычным курсам і што гэта прынясе айчыннай стабільнасці.*

# ФАКТЫ, ПАДЗЕІ, ЛЮДЗІ



## НАВІНЫ РЭГІЁНАЎ

### ЖЛОБІН. СУД НАД СЯБРАМ «СПРАВЯДЛІВАГА СВЕТУ»

У Жлобіне ў чарговы раз перанесена судовае пасяджэнне па справе сябра партыі «Справядлівы свет» Яўгена Басарэўскага, які абвінавачваецца па артыкуле 424 КК («злоўжыванне ўладай або службовымі паўнамоцтвамі»). Суддзя Жлобінскага раённага суда Іна Шаршнёва без тлумачэння прычын перанесла пасяджэнне на 14 лістапада.

Агулам суд над Яўгенам Басарэўскім ідзе з 2010 года, калі актывіст спрабаваў вылучыцца кандыдатам у дэпутаты на выбарах у мясцовыя саветы.

Нагадаем, што напярэдадні мясцовых выбараў–2010 Камітэт дзяржаўнага кантролю правёў праверку ўпраўлення камунальнай уласнасці, якую на працягу пяці гадоў (з 2004 па 2009 гады) узначальваў Яўген Басарэўскі. КДК выявіў, што прадпрыемства нібыта ўхілялася ад выплаты 50% арэнднай платы, чым нанесла ўрон дзяржаве на суму, большую за 180 мільёнаў рублёў. Супраць Яўгена Басарэўскага і былога бухгалтара Цэнтра ўпраўлення камунальнай уласнасці Валянціны Касцюкевіч была распачата крымінальная справа.

Сам Яўген Басарэўскі адзначаў, што да яго неаднаразова падыходзілі чыноўнікі з райвыканкаму і прапаноўвалі зняцца з выбараў, каб не ствараць сабе праблем. Але актывіст адмовіўся зрабіць гэта.

Паводле слоў спадара Яўгена, за гады ягонай працы на гэтым прадпрыемстве ўсе праверкі праходзілі без якіх-небудзь заўваг. І толькі апошнія праверкі, якія нібыта і выявілі парушэнні, праводзіліся адначасова з выбарамі ў мясцовыя саветы.

Падчас суда была праведзена дадатковая экспертыза, якая паказала, што частка выручкі ад здачы будынкаў выплачвалася дзяржаве рэгулярна і ў адпаведнасці з магчымасцямі прадпрыемства. Нягледзячы на гэта, пракурор запатрабаваў пакарань Басарэўскага трыма гадамі абмежавання волі.

Сам Яўген Басарэўскі лічыць, што зацягванне судовага працэсу, які, па-сутнасці, развальваецца на вачах, сведчыць пра яўны палітычны след і нежаданне мясцовых улад прызнаць невінаватымі Басарэўскага і ягоную былую калегу.

### ПОЛАЦК. ГРУЗЧЫКІ ДАМАГАЮЦЦА АДНАЎЛЕННЯ НА ПРАЦЫ ПРАЗ СУД

1 лістапада ў судзе Полацкага раёна працягнуўся разгляд зыску грузчыкаў Зміцера Сянькова і Віктара Раслякова да адміністрацыі Полацкага вінзавода. Працаўнікі былі звольнены нібыта за «сістэматычныя парушэнні працоўнай дысцыпліны».

14 верасня на вінзаводзе распачалася стыхійная забастоўка рабочых, незадаволеных атрыманым нізкім заробкам. Яны пакінулі працоўныя месцы і выйшлі на вуліцу. Кіраўніцтва прадпрыемства адрэагавала на гэта абяцаннем да канца працоўнага дня пералічыць заработную плату работнікам прадпрыемства. Затым, паводле інфармацыі «Народнай волі», прадпрыемства наведалі супрацоўнікі КДБ з мэтай выявіць зачыншчыкаў страйку.

Двум актыўным забастоўшчыкам Зміцеру Сянькову і Віктару Раслякову пасля таго, як яны ўступілі ў свабодны прафсаюз (СПБ) і выступілі з інтэрв'ю пра рэальнае становішча на заводзе, абвясцілі вымовы. Адміністрацыя прадпрыемства «прапанавала ім камандзіроўку» ў сельскую мясцовасць на адзін месяц. Аднак рабочыя, спаслаўшыся на сур'ёзныя прычыны, ад камандзіроўкі адмовіліся. За гэта абодва атрымалі па другой вымове.

На першым судовым пасяджэнні 27 кастрычніка Сянькоў і Раслякоў запатрабавалі адмены вынесеных ім вымоў, аднаўлення на працы, аплаты вымушаных прагулаў, а таксама па 10 мільёнаў рублёў кампенсацыі за нанясенне маральнай шкоды. Зыск падтрымаў Свабодны прафсаюз Беларускі (СПБ).

### СВІСЛАЧ. ЗАТРЫМАНЫМ АКТЫВІСТАМ – ШТРАФЫ І СУТКІ

27 кастрычніка ў Свіслачы былі затрыманыя чатыры ўдзельнікі традыцыйнай акцыі ўшанавання памяці братоў Віктара і Кастуся Каліноўскіх.

Першыя два затрыманні адбыліся каля помніка Рамуальду Траўгуту — герою 1863 года. Затым удзельнікі акцыі скіраваліся ў вёску Якушоўка (маёнтак Каліноўскіх), дзе адбылася імша ў гонар братоў Каліноўскіх. На зваротным шляху ўдзельнікам, а іх сабралася больш за 30 чалавек, дарогу перагарадзілі машыны супрацоўнікаў ДАІ і міліцыі.

Усе затрыманыя ўжо атрымалі прысуды. Іх абвінавацілі ва ўдзеле ў масавым несанкцыянаваным мерапрыемстве.

Старшыня суда Аляксандр Шылін прызнаў іх вінаватымі ў парушэнні закона аб масавых мерапрыемствах з выкарыстаннем незарэгістраванай сімволікі і прысудзіў трое сутак арышту Станіславу Гусакову з Віцебска і Алесю Крату з Мінска, а таксама аштрафаваў Віталя Лопасава з Гродна на 3 мільёны рублёў. Апошні з затрыманых у суботу, 27 кастрычніка, Вітольд Ашурак з Бярозаўкі атрымаў позву прыбыць 1 лістапада, у 10 гадзін на судовае пасяджэнне. Ён адбыў ужо пад арыштам двое сутак і чатыры гадзіны, пасля чаго суддзя яго вызваліў. Але 1 лістапада суд даў яму яшчэ 2 сутак.

Усімі затрыманымі ў Свіслачы апякуюцца мясцовыя і гродзенскія грамадскія актывісты і праваабаронцы.

**Матэрыялы падрыхтаваныя паводле інфармацыі сайта spring96.org**

РЭХА ТРАГЕДЫІ

## ПАМЯЦІ РЭПРЭСАВАНЫХ ПІСЬМЕННІКАЎ

**Марат ГАРАВЫ**

**30 кастрычніка ў Мінску, у мастацкай галерэі «Ў» адбылася вечарына памяці беларускіх пісьменнікаў, рэпрэсаваных у 1930-я гады. Арганізатарам вечарыны выступіў «Саюз беларускіх пісьменнікаў».**

У ноч з 29 на 30 кастрычніка 1937 года ў Мінску былі расстраляныя 103 грамадскія, культурныя і палітычныя дзеячы Беларусі (поўны спіс імёнаў — на сайце marakou.by). Толькі за тры восеньскія месяцы 1937-га было рэпрэсавана больш за 500 грамадскіх і культурных дзеячаў Беларусі. Паводле слоў літаратуразнаўцы Алеся Пашкевіча, такой трагедыі, калі ў кароткі тэрмін краіна страціла гонар нацыянальнай літаратуры, не ведае сусветная гісторыя.

Алесь Пашкевіч звярнуў увагу на тое, што на вечарыну сімвалічна сабраліся прадстаўнікі розных пакаленняў, якія сваімі лёсамі зведалі цяжар страты бацькоў і родных.

Вядучы вечарыны паэт Сяргей Законнікаў узгадаў свайго дзядзьку — вядомага беларускага паэта Сяргея Ракіту, арыштаванага нкусаўцамі ў 1936-м толькі за тое, што малады паэт на пісьменніцкім сходзе выступіў у абарону Янкі Купалы і скептычна выказаўся наконт калгасаў, за што атрымаў 10 гадоў лагераў. Дарэчы, Сяргей Ракіта быў адным з адным з тых, хто, нягледзячы на катаванні, не прызнаў сваёй віны і не сведчыў супраць сяброў.

Акадэмік Радзім Гарэцкі ўзгадаў: «Я памятаю, як аднойчы з братам мы ўбачылі невялікую групу вязняў, якую пешшу вялі праз мост. Сярод іх быў бацька ў жудасным стане: нягалены, худы, паніклы, на пухлых нагах нейкія падраныя тапачкі, прывязаныя шпагатам, бо на нозе ні чаравікі ні нават тапкі не налазілі.Убачыўшы нас, бацька неяк яшчэ больш сагнуўся, апусціў галаву, бо, відаць, яму было няёмка ад таго, што мы бачым яго ў такім выглядзе, але вочы трошкі пасвятлелі, і ён махнуў нам рукою, як быццам развітваўся назаўсёды».

Паэт Анатоль Вярцінскі нагадаў, што ў 2009 годзе ў Мінску ў серыі «Беларускі кнігазбор» упершыню выйшла анталогія твораў беларускіх пісьменнікаў, загубленых сталінскімі сатрапамі ў 1920–1950 гады. У кнізе пад назвай «Расстраляная літаратура» сабраныя найбольш значныя творы 66 ахвяраў таталітарнага рэжыму.

Падчас вечарыны выступілі дачка рэпрасаванага паэта Тодара Кляшторнага Мая Кляшторная, паэт Віктар Жыбуль, культуролаг Анатоль Сідарэвіч і даследчык гісторыі сталінскіх рэпрэсій Леанід Маракоў.

СПРАВА

## ПЕРАМАГЧЫ СІСТЭМУ

**Вольга ХВОІН**

**Супрацоўнік сілавога ведамства Андрэй Мініч дабіўся ў судзе адмены пастановы Следчага ўпраўлення УУС Мінаблвыканкама аб спыненні крымінальнага пераследу і папярэдняга расследавання па крымінальнай справе дактароў Жодзінскай цэнтральнай гарадской бальніцы Пціцынай і Ягоравай.**

Пра судовыя пошукі справядлівасці Андрэя Мініча «НЧ» пісаў у артыкуле «Сваіх не здаюць». Нагадаем, у ліпені 2007 года маці Андрэя Рэгіна Антонаўна Мініч памерла ў рэанімацыйным аддзяленні Жодзінскай гарадской бальніцы. Дактары сказалі, што прычынай смерці стаў рак нявыяўленай формы, але ў пасведчанні аб смерці ў графе, дзе пазначаецца прычына, быў прочырк. У тым жа 2007 годзе Рэгіна Антонаўна неаднаразова звярталася да дактароў з-за пагаршэння здароўя. Андрэй Мініч перакананы: калі б была своечасовая дыягностыка, яго маці магла б пражыць яшчэ не адзін год.

Андрэй падаў заяву ў ГАУС Жодзіна 15 красавіка 2008 года. У лістападзе 2008 года была заведзена справа па прыкмеце злачынства паводле ч. 2 артыкула 162 Крымінальнага кодэкса Беларусі (неналежнае выкананне прафесійных абавязкаў медыцынскім работнікам, якое пацягнула па неасцярожнасці смерць пацыента; караецца абмежаваннем волі на тэрмін да пяці гадоў або пазбаўленнем волі на той жа тэрмін з пазбаўленнем права займаць пэўныя пасады або займацца пэўнай дзейнасцю або без пазбаўлення).

Але з-за «злачыннай бяздзейнасці», як кажа Мініч, старэйшага следчага па асабліва важных справах СУ Мінаблвыканкама падпалкоўніка міліцыі А. У. Канцавога, намесніка начальніка СУ Мінаблвыканкама падпалкоўніка С. Л. Буткоўскага папярэдняе расследаванне ішло марудна, а потым увогуле было спынена, бо ў дзеяннях урачоў не было складу злачынства.

Пасля шэрагу скаргаў па інстанцыях Андрэй Мініч нарэшце дамогся, каб пракуратура Мінскай вобласці адправіла крымінальную справу на аднаўленне папярэдняга расследавання. А суд Фрунзенскага раёна Мінска ўвогуле вынес вердыкт на разгляд скаргі Мініча аб спыненні крымінальнага пераследу і папярэдняга расследавання па крымінальнай справе.

«Высновы, зробленыя ў пастанове следчага аб тым, што дзеянні ўрачоў не знаходзяцца ў прычыннай сувязі са смерцю, аб тым, што сыход быў бы такім незалежна ад таго, ці выявілі б дактары пухліну, грунтуецца на меркаваннях і не атрымаў належнай прававой ацэнкі», — гаворыцца ў пастанове суда. Адпаведна суд адмяніў рашэнне аб прыпыненні крымінальнага пераследу ўрачоў Пціцынай і Ягоравай па ч. 2 арт. 162 КК. Справа адпраўлена на даследаванне.

Андрэй гэтай перамозе шчыра радуецца, бо яму ўдалося спыніць «злачынную бяздзейнасць людзей, якія мусяць адказваць за ўстанаўленне законнасці і справядлівасці».

«Звычайна грамадзяне ў сілу сваёй невысокай прававой падрыхтаванасці не могуць прайсці стольскі інстанцый, каб дамагчыся выканання сваіх правоў. Таму я рады, што змог гэтых людзей (найперш Буткоўскага і Канцавога) «зрэзаць пад корань», — кажа Мініч.

Але крымінальная справа з медыцынскім ухілам яшчэ не завершаная, таму будзем сачыць за развіццём падзей.

ПАМЯЦЬ

## СРОДКІ НА ПОМНІК ГАДЛЕЎСКАМУ

**У Мінску 30 кастрычніка прайшла прэс-канферэнцыя, прысвечаная 70-годдзю з дня расстрэлу беларускага нацыянальнага лідара – ксяндза Вінцэнта Гадлеўскага. Канферэнцыя праходзіла ў межах кампаніі па ўшанаванні памяці Вінцэнта Гадлеўскага.**

Дарэчы, у межах кампаніі ўжо распрацаваны шыльды, якія плануецца павесіць у месцах, звязаных з жыццём і дзейнасцю Гадлеўскага: у Вільні, Мінску, Жодзішках. Таксама праводзіцца збор подпісаў для перайменавання савецкіх вуліц на вуліцу ў гонар святара ў гарадах, дзе ён служыў. Такі збор подпісаў ідзе Глыбокім, Мёрах, Гродна і Слоніме. Да таго ж, былі надрукаваны календары і плакаты ў памяць пра Вінцэнта Гадлеўскага і Адама Станкевіча, запушчаны сайт, прысвечаны ўшанаванню памяці святароў http://data.zmk-by.org/. Напрыканцы 2012 года адбудзецца навукова-практычная канферэнцыя, прысвечаная Вінцэнту Гадлеўскаму, а 24 снежня, ў 70-ю гадавіну гібелі святара, пройдуць мемарыяльныя мерапрыемствы. У Трасцянцы, месцы расстрэлу гестапаўцамі Вінцэнта Гадлеўскага, плануецца ўсталяваць помнік ксяндзу.

Аргкамітэт БХД заклікае ўсіх неабыякавых ахвяраваць сродкі на ўсталяванне мемарыялу беларускаму нацыянальнаму лідару: *ф-л 514 ААТ «ААБ Беларусбанк», УНП 100420097, код банка 614, р/р 3819382102369. Абавязкова пазначаць: ахвяраванне на дабрачынны рахунак №000001.*

**Паводле інфармацыі прэс-службы БХД**

## ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# ДАВЯДЗЕЦЦА ДУМАЦЬ, ПЕРШ ЧЫМ КАЗАЦЬ

Сяргей САЛАЎЁЎ



**Міністр замежных справаў Беларусі Уладзімір Макей з цяжкасцю прызвычайваецца да сваіх новых абавязкаў. Крыху недакладна выказаўшыся, ён ледзь не стаў прычынай міжнароднага скандалу, а можа нават атрымаў па шапцы ад Аляксандра Лукашэнкі. Яшчэ раз пацвердзілася: тое, што можна сказаць кіраўніку Адміністрацыі прэзідэнта, не дазволена міністру замежных справаў.**

На брыфінгу ў Мінску 30 кастрычніка Макей неасцярожна зазначыў, што пазіцыя Беларусі па пытанні прызнання незалежнасці Абхазіі і Паўднёвай Асеціі «можа змяніцца ў будучыні». СМІ расцанілі гэтыя словы як магчымасць прызнання гэтых дзвюх тэрыторый, якія Грузія лічыць сваімі, але акупаванымі расійскімі войскамі. Расія ж лічыць гэтыя тэрыторыі «незалежнымі дзяржавамі пад сваім пратэктаратам».

Дагэтуль Абхазію і Паўднёвую Асецію прызналі толькі шэсць дзяржаў, што з'яўляюцца сябрамі ААН. Акрамя Расіі, у гэты пералік уваходзяць Венесуэла і Нікарагуа, а таксама карлікавыя дзяржавы ціхаакіянскага басейна Вануату, Науру, Тувалу.

Лукашэнка неаднаразова выказваў падтрымку Расіі ў гэтым пытанні, але свае словы потым забіраў назад. Адразу пасля ўказа Дзмітрыя Мядзведзева аб прызнанні незалежнасці Паўднёвай Асеціі і Абхазіі ў 2008 годзе Лукашэнка выказаў падтрымку Мядзведзеву і накіраваў яму ліст, у якім адзначыў, што ў дадзенай сітуацыі ў Расіі не было іншага маральнага выбару. Сам Лукашэнка не стаў разглядаць пытанне аб прызнанні рэспублік у 2008 годзе, заявіўшы, што гэтае пытанне знаходзіцца ў кампетэнцыі парламента, які, аднак, і дагэтуль не прыняў рашэння па гэтай праблеме. Пазней Аляксандр Рыгоравіч зазначыў, што ў непрызнанні Беларуссю новых рэспублік вінаватая сама Расія. Паводле слоў беларускага лідара, механізм прызнання ўжо быў даведзены да ведама Еўрасаюза, але пачалася атака на Беларусь у расійскіх СМІ. «У цэнтральных СМІ Расіі нас пачалі проста цкаваць: «Ён не прызнае, таму што яму 500 мільёнаў долараў не далі» (тады якраз ішлі перамовы па чарговым крэдыце з боку Расіі). Як быццам я за грошы павінен прызнаць гэтыя рэспублікі!», — распавёў Лукашэнка.

Пасля выказвання Уладзіміра Макея тэма грошай узнікла зноў. Справа ў тым, што Масква прапанавала Мінску кампенсаваць расійскаму бюджэту страты ад «растваральнага» бізнэсу, якія ацэньваюцца прыкладна ў 1,5 мільярда долараў. І нібыта ў адказ на "спісанне" гэтых грошай Макей і закінуў вуду: вы спісваеце доўг, а мы прызнаём грузінскія землі вашымі.

Гэта версія таксама мае права на існаванне. Напачатку месяца ў інтэрв'ю міждзяржаўнай тэлерадыёкампаніі «Мір» Аляксандр Лукашэнка паведаміў, што мае намер ініцыяваць вяртанне Грузіі ў склад краін — удзельніц Садружнасці Незалежных Дзяржаў: «Мне здаецца, што ў наступным годзе саміт СНД, хутчэй за ўсё, збярэцца ў Мінску. Таму я ўсяляк буду ініцыяваць вяртанне Грузіі ў СНД, гэта ўжо мая будзе функцыя (калі Мінск стане месцам правядзення саміта)».

Адначасовае вяртанне Грузіі ў СНД і прызнанне Абхазіі і Паўднёвай Асеціі несумяшчальныя, як несумяшчальныя два більярдныя шары. Бо менавіта з-за анексіі гэтых тэрыторый Грузія выйшла са складу СНД і наўрад ці будзе ўдзельнічаць у аб'яднанні, сябрам якога з'яўляецца Расія. Дарэчы, пакуль што Беларусь мае больш выгадаў ад сяброўства з Грузіяй — адзін толькі безвізавы рэжым з гэтай краінай шмат чаго варты. Да таго ж, у адрозненне ад Расіі, у нас не забароненыя «Баржомі» і грузінскія віны. Так што тут Макей вельмі паспяшаўся. Магчыма, нават атрымаў па шапцы ад Аляксандра Лукашэнкі. А можа, і не атрымаў, бо на мінулым тыдні Лукашэнка займаўся разглядам справаў у спартовай сферы. Як вядома, самая спартыўная дзяржава атрымала на Алімпійскіх гульнях у Лондане адмоўны вынік. І галоўны спартсмен краіны не мог пакінуць гэта без увагі.

На Алімпійскім сходзе 26 кастрычніка Лукашэнка праанализаваў становішча ў спорце і паставіў новыя алімпійскія мэты. На нарадзе згадвалася пра «несумленныя паводзіны асобных спартыўных дзеячаў», якія найперш імкнуліся да атрымання ўласнай выгады. Лукашэнка даручыў «дасканала праверыць такія факты і прыняць неабходныя меры». Ён адзначыў, што, рыхтуючыся да гэтага мерапрыемства, даручыў Камітэту дзяржаўнага кантролю і іншым структурам праверыць, як вялася падрыхтоўка да галоўных стартаў чатырохгоддзя. «Выніікі несуцяшальныя. Аказалася, што з-за бяздзеяння службовых асоб Мінспорту частка вострa неабходнага інвентару была закуплена зусім напярэдадні, падчас і нават пасля Алімпіяды», — сказаў ён. Лукашэнка узгадаў і пра ўжыванне допінгу: «Трэба спыніць балбатню аб гэтым допінгу. Галоўнае — гэта праца. Трэба працаваць, вось і ўвесь допінг. Нам трэба вырашыць пытанне так, як у кітайцаў, еўрапейцаў і амерыканцаў. Трэба ўвесці крымінальную адказнасць за прымяненне допінгу».

Улічваючы, што некаторых за допінг пазбаўляюць узнагарод аж праз восем гадоў пасля перамогі, нашы турмы маюць шанец ператварыцца ў элітныя палацы спорту, дзе будуць рыхтавацца найлепшыя алімпійскія кадры. Для гэтага можна параіць разам са спартсменамі саджаць і іх трэнераў. На думку Лукашэнкі, кожны трэнер павінен падрыхтаваць хаця б аднаго вялікага спартсмена, інакш, можа, і трэнеры не патрэбны.

Сапраўды, калі асобныя спартоўцы апынуцца ў турме, гэта дапаможа не толькі спорту. Які плюс атрымае пенітэнцыярная сістэма! У турмах з'явяцца басейны, лядовыя палацы, тэнісныя корты, футбольныя палі, нарэшце з'явяцца і нармальнае харчаванне (не будзеш жа спартсменаў карміць так, як зараз зэкаў кормяць, — камбікормам). Ды нашы турмы праз пяць гадоў дадуць фору ўсім еўрапейскім! Дэпартаменту пакарання МУС я б прапанаваў пачынаць лабіраваць гэту ідэю. Бо інакш, каб зменшыць выдаткі, могуць абнесці лядовыя палацы і стадыёны калючым дротам, і ўсё — да пабачэння, мары пра еўрарамонт «на зоне».

А пакуль што Беларусь развітваецца са сваім мінулым. Уладальнікі старых тэлевізараў, да якіх пультам дыстанцыйнага кіравання служылі пасатыжы і якія (каб лепш працавалі) можна было стукнуць па крышцы, хутка зробяцца мільянерамі, здаўшы іх у антыкварыят. Холдынг «Гарызонт» у кастрычніку гэтага года спыніў вытворчасць аналагавых тэлевізараў. А з сярэдзіны 2015 года ў Беларусі спыніцца і аналагавае тэлевізійнае вяшчанне.

Больш за ўсё шкада кацянят. З пераходам вытворчасці на «плазму» і «лічбу» яны канчаткова страцяць адно цёплае месца ў доме. Шмат каму падабалася назіраць, як коткі грэюцца на тэлевізары, звесіўшы хвост на экран. Плоскія тэлевізары такога не дазваляюць.

> Масква прапанавала Мінску кампенсаваць расійскаму бюджэту страты ад «растваральнага» бізнэсу, якія ацэньваюцца прыкладна ў 1,5 мільярда долараў

## ФІГУРЫ ТЫДНЯ

### АЛЕГ ВОЛЧАК



Да праваабаронцы Алега Волчака падатковая інспекцыя прад'яўляе прэтэнзіі. Кіраўнік грамадскага аб'яднання «Прававая дапамога насельніцтву», зарэгістраванага ва Украіне, Алег Волчак павінен падаць дэкларацыю аб даходах і маёмасці за дзесяць гадоў. З такім патрабаваннем да яго звярнуліся з інспекцыі Міністэрства па падатках і зборах па Фрунзенскім раёне Мінска, — піша інфармацыйны рэсурс naviny.by.

«Каб выканаць гэтае патрабаванне, у мяне практычна не было часу, — адзначае праваабаронца. — Справа ў тым, што дадзенае патрабаванне, датаванае 27 верасня, было накіравана па пошце з паведамленнем. У ім згадвалася, што я абавязаны даць справаздачу аб даходах за 2002–2011 гады не пазней за 25 кастрычніка 2012 года. Аднак ліст быў накіраваны на адрас, дзе я не жыву, і таму я яго, можна сказаць, выпадкова атрымаў толькі ў сярэдзіне кастрычніка. Не магу сцвярджаць, што гэта было зроблена наўмысна, але ў мяне няма ніякага сумнення ў тым, што падатковая інспекцыя ў дадзеным выпадку выкарыстоўваецца як інструмент ціску на мяне за маю праваабарончую дзейнасць».

Даручэнне «ўзмацніць падатковы кантроль за прыбыткамі прафесійных апазіцыянераў, якія жывуць за кошт сродкаў замежнага паходжання», даў Аляксандр Лукашэнка 29 красавіка 2008 года падчас адказаў на пытанні дэпутатаў пасля звароту прэзідэнта да народа і парламента. З гэтага часу праваабаронцаў і прадстаўнікоў дэмакратычных партый сталі масава выклікаць у падатковыя органы.

### ЗМІЦЕР ДАШКЕВІЧ



Палітвязень, лідар міжнароднай арганізацыі «Малады фронт» (Чэхія) Дзмітрый Дашкевіч працягне адбываць пакаранне ў крытай турме, паведамляе БелаПАН. Такое рашэнне прыняў 30 кастрычніка мазырскі суд на выязным пасяджэнні ў папраўчай калоніі №20 горада Мазыра (Гомельская вобласць), дзе цяпер утрымліваецца апазіцыйны палітык.

У якую з турмаў будзе этапаваны Дашкевіч, пакуль невядома. Верагодна, гэта можа быць турма ў Жодзіне альбо ў Гародні, дзе вязень будзе знаходзіцца да канца тэрміну (канец жніўня 2013 года). Крытая турма прадугледжвае больш жорсткія правілы ўтрымання вязняў.

Узмацненне жорсткасці ўмоў утрымання Дашкевіча сведчыць пра тое, што ўлады працягваюць ціск на лідара «Маладога фронту», мяркуе намесніца Дашкевіча Наста Палажанка. Яна адзначае, што гэта яшчэ больш ізалюе палітыка ад знешняга свету.

### АЛЯКСАНДР ШАМКО



Міністрам спорту прызначаны Аляксандр Шамко. Былы кіраўнік Памежнага камітэта Ігар Рачкоўскі будзе віцэ-прэзідэнтам Нацыянальнага алімпійскага камітэта.

Лукашэнка адзначыў, што Аляксандр Шамко — чалавек у спорце не выпадковы. У Міністэрстве па надзвычайных сітуацыях ён курыраваў зборную каманду па пажарна-ратавальным спорце, якая чатыры разы станавілася чэмпіёнам свету (найбольшая колькасць перамог прадстаўнікоў аднай краіны ў гісторыі гэтага віду спорту).

Былы кіраўнік Памежнага камітэта Ігар Рачкоўскі звольнены з былой пасады і цяпер узначальвае Беларускую федэрацыю парусната спорту, ён добра валодае пытаннямі развіцця спорту.

Лукашэнка запатрабаваў ад новапрызначаных асобаў без прамаруджання прыступіць да працы. Папярэдняга міністра спорту Алега Качана Лукашэнка адправіў у адстаўку пасля невыканання плану па алімпійскіх медалях. А на Алімпійскім сходзе прад'явіў да Качана прэтэнзіі ў нямэтавым выкарыстанні дзяржаўных сродкаў: «Раскажыце, Алег Леанідавіч, якія ж прычыны прывялі да такой катастрофы ў перыяд вашага кіравання, — цытуе словы Лукашэнкі да экс-міністра спорту Алега Качана газета «Прэсбол». — Усё можаце расказваць: пра асабнякі, якія вы будуеце за кошт спартыўнай галіны, дарэчы, з памочнікам, можа, з адным, з другім віцэ-прэзідэнтам. Усё расказвайце! Нашым людзям цікава будзе паслухаць».

▸ АЗБУКА ПАЛІТАЛОГІІ

# ЧЫЯ РЭАЛЬНАСЦЬ БОЛЬШ РЭАЛЬНАЯ?

Сяргей НІКАЛЮК

**Калі інтэлектуалаў адхіляюць ад удзелу ў палітычным жыцці, яны асуджаныя на распрацоўку абстрактных тэорый.**




Ужо не першы артыкул мне даводзіцца пачынаць з цытавання культуролага Андрэя Пеліпенкі: «Ва ўсялякай культуры ёсць зрэзы рэальнасці, якія асэнсаваны найбольш глыбока, менш поўна ці не бачныя зусім».

Чаго не бачыць «зусім» айчынная палітычная культура? Яна не бачыць (амаль не бачыць) грамадства. Рэакцыя на апытанні НІСЭПД ілюструе гэта сцвярджэнне. Як толькі з'яўляюцца вынікі чарговага апытання, прафесійныя і напаўпрафесійныя каментатары пачынаюць «*гвалтом кричать*». Прашу прабачэння ў адзінага беларускага палітыка (АП) за выкарыстанне яго фразеалагізму.

Пра што крычаць? Як правіла, з нагоды рэйтынгу АП, які, на думку крыкуноў, завышаны. Далей ідзе стандартны набор аргументаў, што за два дзясяцігоддзя не зведаў сур'ёзнай змены. Тут і фактар страху, і прадажнасць сацыёлагаў, і — як апагей асэнсавання — сцвярджэнне пра немагчымасць правядзення сацыялагічных апытанняў у аўтарытарнай краіне.

Адказы на ўсе іншыя пытанні, якія ў сваёй сукупнасці дазваляюць асэнсоўваць прыроду беларускага грамадства, апанентаў не цікавяць. Усю сваю энергію яны канцэнтруюць на адным пытанні. Рэакцыя на апошняе апытанне ў гэтым сэнсе сталася стандартнай, адрозненне толькі ў тым, што «*гвалтом кричать*» гэтым разам пачалі з нагоды яўкі.

## Д'Аламбер у ролі Рабесп'ера

Асноўная ўласцівасць кожнай культуры — здольнасць супрацьіўляцца зменам. Колькі было ахвочых за апошнюю палову стагоддзя ўвайсці ў «*элитный клуб высокоразвитых стран*», але толькі пяцёра здолелі справіцца з гэтай задачай. Усе яны — прадстаўнікі далёкаўсходняй цывілізацыі (паводле Тойнбі). Пералічу: Японія, Рэспубліка Карэя, Ганконг, Тайвань і Сінгапур. Астатнія б і хацелі, ды культурная каляіна не пускае. На мове істытуцыянальных эканамістаў гэта называецца «past dependency problem».

Прыгледзімся ўважлівей да тых, хто «*гвалтом кричит*». Гаворка, зразумела, ідзе не пра персаналіі. Іх сацыяльны статус цалкам можа быць вызначаны як «інтэлігенцыя». Гістарычна да гэтай групы ў межах айчыннай каляіны прылічалі, па-першае, людзей свабодных прафесій, якія былі адносна незалежнымі ад дзяржавы; па-другое, тых, хто верыў у магчымасць рацыянальнай перабудовы свету за кошт фармавання новага (рацыянальнага) тыпу чалавека.

У рускую, а затым і ў беларускую мову слова «intelligence» патрапіла з Францыі ў 1840-х гадах. У Еўропе гэты тэрмін неўзабаве выйшаў з ужытку, у Расіі ж, наадварот, добра прыжыўся. Ім абазначалі тых, хто выступае ад імя «нямой большасці». «У краіне, дзе «грамадства» не мела выхаду на палітычную арэну, з'яўленне апісанай групы было непазбежнае», — сцвярджае амерыканскі гісторык Рычард Пайпс. Тэрмін «інтэлігенцыя», такім чынам, дазваляе адрозніваць сацыяльна актыўных «інтэлектуалаў» ад пасіўных.

Каб рухацца далей, звернемся па дапамогу да французскага мысляра XIX стагоддзя Алексіса Таквіля. У краінах, дзе інтэлектуалы не адхіленыя ад удзелу ў палітычным жыцці, «тыя, хто піша пра тэорыю кіравання, і тыя, хто сапраўды кіруе, узаемадзейнічаюць паміж сабой: першыя — развіваючы свае тэорыі, другія — удасканальваючы ці падпарадкоўваючы іх практычным запатрабаванням». Калі ж інтэлектуалаў адхіляюць ад удзелу ў палітычным жыцці, узнікае сітуацыя, калі «тэорыя і практыка стаяць паасобку і знаходзяцца ў руках дзвюх цалкам адасобленых груп». Адна з гэтых груп ажыццяўляе рэальнае кіраванне, у той час як іншая развівае абстрактныя прынцыпы і не задумваецца пра іх практычнае ўжыванне. Адна група фармавала ход грамадскіх спраў, іншая — грамадскую думку. Так паралельна з рэальнай грамадскай сістэмай у свядомасці людзей паўстае ўяўнае грамадства, дзе ўсё проста і пануе адзінства.

Да якіх наступстваў можа прывесці адхіленне інтэлектуалаў ад рэальнага кіравання, паказаў французскі гісторык Агюст Кашэн на прыкладзе Вялікай Французскай рэвалюцыі. Пошук якабінскага радаводу прывёў яго да грамадскіх і культурных гурткоў (да «малога народу»), якія ўтварыліся ў Францыі ў 60-я і 70-я гады XVIII стагоддзя. Гэтыя гурткі сваё галоўнае прызначэнне бачылі ва ўсталяванні аднадумства. Адзінства яны дамагаліся тым, што жорстка навязвалі гурткам свае ідэі, шальмуючы ўсіх, хто думаў інакш: «Крываваму тэрору 1793-га года, — піша Кашэн, — папярэднічаў «бяскроўны» тэрор 1765–1780 гадоў у «літаратурнай рэспубліцы», дзе Энцыклапедыя адыгрывала ролю Камітэта грамадскага выратавання, а Д'Аламбер быў Рабесп'ерам. Адна гэтак жа вынішчала добрыя імёны, як той адсякаў галовы».

## Што ў сухой астачы?

Так працуе механізм фармавання ўласнай рэальнасці інтэлектуаламі, якіх у дадзеным выпадку правільней называць інтэлігентамі. У лютым 1917 года з прадстаўнікоў ліберальнай інтэлігенцыі (г. зн. бліскуча адукаваных для свайго часу людзей, але цалкам пазбаўленых адміністрацыйнага досведу) быў сфармаваны Часовы ўрад. У тым, што ўрад апынуўся часовым, дзівіцца не даводзіцца. У імперыі, насельніцтва якой на 85% складалася з сялян, што па ўзроўні культуры мала чым адрозніваліся ад сваіх далёкіх продкаў часоў прышэсця варагаў, у лібералаў не было ніякіх шанцаў захаваць уладу.

Ім на змену прыйшлі інтэлігенты, здольныя будаваць палітыку «ад жыцця». Абвешчаны іх лідарам лозунг-трыпціх («Мір народам!», «Зямля сялянам!», «Фабрыкі працоўным!») патрымалі мільёны, занятыя на той момант і без падказкі «чорным перадзелам».

Пасля лістападаўскага рэферэндуму 1996 года абмен кадрамі паміж уладнай і апазіцыйнай элітамі ў Беларусі цалкам спыніўся. У тагачасных умовах, інтэлектуалам, адхіленым ад практычных спраў, нічога больш не заставалася, як выбудоўваць уласную (гэтым разам віртуальную) рэальнасць. Зноў даю слова Агюсту Кашэну: «Калі ў рэальным свеце суддзёй усякай думкі выступае доказ, а мэтай — вынік гэтай думкі, то ў гэтым свеце суддзёй выступае меркаванне пра яе іншых, а мэтай — яе прызнанне... Усялякая думка, усялякая інтэлектуальная дзейнасць магчымыя тут, толькі калі знаходзяцца ў згодзе з іх думкай. Тут перакананні вызначаюць існаванне... Думка, якая падпарадкоўваецца гэтым правілам, спачатку губляе цікавасць да рэальнага, а затым — пастуова — і пачуццё рэальнасці».

Што застаецца ў сухой астачы? Толькі тыя ўяўленні і схемы, якія падтрымліваюць сярод выціснутых у апазіцыйнае гета палітыкаў іх надзеі на здабыццё (для кагосьці паўторнае) месца ў кіроўнай эліце. Такія ўяўленні і схемы па вызначэнні не могуць быць складанымі. Адсюль не проста нулявая цікавасць да любых даследаванняў, якія адлюстроўваюць складанасць рэальнага свету, але і імкненне ўсяляк дыскрэдытаваць і зняважыць іх аўтараў. Адсюль і барацьба ва ўласных шэрагах за статус адзінага носьбіта адзінага варыянту праўды.

Калі на стадыі фармавання інтэлігенцыі яе першыя неафіты былі ангажаваныя ідэяй фармавання новага чалавека, то іх сучасныя паслядоўнікі ўпэўнены, што патрэбны тып людзей у Беларусі ўжо сфармаваны, прычым у неабходнай для паспяховага пераходу ад аўтарытарызму да дэмакратыі колькасці. Папросту праз інфармацыйны, а часам і сілавы ціск з боку дзяржавы ён не можа сябе праявіць. Таму з такой лёгкасцю робяцца заявы наконт разбурэння сацыяльнага кантракту паміж уладай і грамадствам, як толькі пачынаюць збірацца хмары на эканамічным гарызонце.

## Сацыялогія і закон паступовай страты прыбытковасці

Між тым, у апошнім апытанні НІСЭПД і без асаблівых інтэлектуальных высілкаў (было б жаданне) апаненты ўлады змаглі б знайсці для сябе шмат пазітыўнай інфармацыі. Спынюся толькі на індэксах, якія дазваляюць вымяраць сацыяльную тэмпературу. Усе яны (індэксы матэрыяльнага становішча, чакання і правільнасці курсу) так і не выйшлі з адмоўнай зоны. А тым часам сярэдняя зарплата ў доларавым эквіваленце ўпэўнена набліжаецца да запаветнай лічбы 500.

Нагадаю, што фактычна пры тым жа ўзроўні сярэдняй зарплаты ў канцы 2010 года ўсе сацыяльныя індэксы былі дадатнымі. Такім чынам, можна казаць пра ўніверсальнасць закона паступовай страты прыбытковасці, добра знаёмага студэнтам эканамічных каледжаў: кожны наступны бюджэтны трыльён на ўваходзе прыносіць усё меншую сацыяльна-палітычную аддачу на выхадзе. Гэта плата за эканамічны папулізм.

За няпоўны 2012 год сярэдняя зарплата ў доларавым эквіваленце павялічылася ў 1,4 раза. Працягваць вальсаваць у тым жа тэмпе ўлада ўжо не ў стане, што і пацвердзіў Белстат, які паведаміў пра скарачэнне рэальнай зарплаты ў верасні на 1%. Нескладана здагадацца, як гэта адаб'ецца на сацыяльных індэксах і электаральным рэйтынгу АП, які, дарэчы, за трэці квартал дадаў усяго 1,9 працэнтных пункты пры памылцы выбаркі ў 3%.

Але пяройдзем ад азбукавых ісцін паліталогіі да ісцін арыфметычных. Не выключана, што з іх дапамогай мы зможам хоць бы часткова зменшыць прорву паміж дзвюма сацыяльнымі рэальнасцямі: той, якая даецца назіральнікам у адчуваннях, і рэальнасцю, сфармаванай сацыёлагамі падчас агульнанацыянальнага апытання.

Усе мы ведаем, што вялікая колькасць патэнцыйных беларускіх выбарцаў (ад 0,5 да 1 мільёна) у наш час працуюць за межамі краіны. Які іх унёсак у вышэйзгаданыя сацыяльныя рэальнасці?

Разгледзім скрайні выпадак: усё дарослае насельніцтва Беларусі за выключэннем 1,5 тысячы чалавек (менавіта столькі апытваюць сацыёлагі) выехала за мяжу. Дапусцім, што кожны з тых беларусаў, хто застаўся, быў апытаны. У выніку сацыёлагі атрымаюць дакладна такое ж значэнне яўкі, якое яны зафіксавалі ў верасні. Што да назіральнікаў, дык большасць з іх наогул не ўбачаць выбарцаў на ўчастках, бо колькасць удзельнікаў значна большая за 1,5 тысячы.

Дык чыя ж рэальнасць будзе больш рэальная? Мой адказ — сацыёлагаў. Яны фіксуюць яўку ад рэальнай колькасці выбарцаў, у той час як назіральнікі — ад спіскавай, г.зн. яўку, заніжаную не апатыяй выбарцаў, а іх эканамічнай актыўнасцю.

ЯК ЖЫВУЦЬ НАШЫ СУСЕДЗІ

# Уладзімір Цімашэвіч: АЛЬТЭРНАТЫВЫ НЕ БЫЛО

Аксана КОЛБ

**Польшча — адна з нешматлікіх краін Еўрасаюза, якая (нягледзячы на крызіс) працягвае эканамічны рост. За 2011 год гэты паказчык склаў 4,3%, што нават трохі перавысіла прагнозы аналітыкаў. Колькасць інвестыцый у 2011 годзе павялічылася на 8,7%, а ўнутраны попыт — на 3,8%. Такая ж тэндэнцыя захавалася і сёлета.**

Трэба сказаць, што Польшча, напэўна, як ніякая іншая дзяржава, змагла скарыстацца магчымасцямі еўрапейскай супольнасці. Восем гадоў у Еўрасаюзе дазволілі гэтай краіне здабыць палітычную незалежнасць і эканамічную стабільнасць. І сёння большасць грамадзян Рэспублікі Польшча глядзяць у будучыню з упэўненасцю.

Вопыт гэтай нашай суседкі цікавы для нас яшчэ і таму, што Беларусь мела не горшы, а магчыма, нават лепшы шанец стаць сапраўды еўрапейскай краінай. Можна сказаць, што шлях Польшчы ў Еўрасаюз і яе сённяшнія дасягненні — гэта шлях Беларусі, які мы не прайшлі, таму што аднойчы зрабілі не той выбар.

Прапануем вашай увазе інтэрв'ю з вядомым польскім палітыкам, экс-прэм'ерам і экс-міністрам замежных спраў, дзеючым сенатарам Уладзімірам Цімашэвічам. Можна сказаць, што дзякуючы высілкам гэтага чалавека і яго атачэння Польшча здолела паспяхова правесці працэс перамоваў і 1 мая 2004 года ўступіла ў ЕС.



**Даведка:**

Уладзімір Цімашэвіч (нарадзіўся 13 верасня 1950 года) — польскі дзяржаўны і палітычны дзеяч. Быў прэм'ер-міністрам у 1996–1997 гадах, міністрам замежных спраў ва ўрадзе Лешэка Мілера (2001–2004 гг.), а затым ва ўрадзе Марэка Белькі (2004–2005 гг.). Маршал (старшыня) Сейма Польшчы (2005 г.) і адзін з кандыдатаў на пасаду прэзідэнта ў 1990 годзе (9,21%) і ў 2005 годзе (адмовіўся). Пасля 2005 года не прымаў удзел у палітыцы. У кастрычніку 2007 года быў, аднак, абраны ў Сенат як адзіны беспартыйны кандыдат. Зараз узначальвае Камісію па замежных справах Сената Польшчы.

Дарэчы, спадар Цімашэвіч мае беларускія карані, яго дальнія родзічы дагэтуль жывуць у Брэсцкай і Гродзенскай абласцях.

***— Якім быў шлях Польшчы да Еўрасаюза?***

— Польшча абрала шлях еўраінтэграцыі яшчэ напачатку 1990-х гадоў. Крыху пазней, калі я ўжо быў прэм'ерам, мы дасягнулі станоўчых вынікаў у гэтым накірунку. У 1997 годзе па ініцыятыве ўрада была прынятая стратэгічная праграма еўрапейскай інтэграцыі. У гэтай праграме мы акрэслілі ўсе неабходныя дзеянні, каб падрыхтаваць Польшчу для чалецтва ў ЕС, прапанавалі ўнесці пэўныя змены ў сферы права, інстытутаў, падрыхтоўкі людзей і г.д.

У канцы 2001 года, калі я быў прызначаны міністрам замежных спраў і стаў адказным за перамовы і далейшае ўваходжанне ў ЕС, Польшча знаходзілася ў асабліва складанай сітуацыі, бо ў нас былі самыя горшыя паказчыкі і несуцяшальныя вынікі працы з кандыдатамі. Гэта здарылася з-за недастатковай каардынацыі польскай палітыкі ў еўрапейскай сферы ў самой краіне і яе невыразнай пазіцыі на перамовах.

***— Вы маеце на ўвазе, што Польшча не вельмі добра ўяўляла сваю ролю ў ЕС і тыя прывілеі, што магла атрымаць?***

— Некаторыя нашы жаданні былі надзвычай нерэалістычныя, і загадзя можна было прадбачыць, што яны не маюць шанцаў на прыняцце. У сувязі з гэтым на перамовах склалася тупіковая сітуацыя, і рух наперад стаў немагчымы. Пасля зацвярджэння новага ўрада я прапанаваў Радзе міністраў змену стратэгіі перамоў. І праз два тыдні мы прынялі такое рашэнне. Яно было палітычна спрэчным, бо азначала змену нашай пазіцыі на перамовах па некаторых пытаннях, і гэта выклікала моцнае асуджэнне з боку апазіцыі. Гучалі абвінавачванні ў «продажы польскіх нацыянальных інтарэсаў». Нават ставілася пытанне пра вотум даверу да прэм'ера. Існавала даволі шмат і працаўнікоў еўраінтэграцыі, і калі гаворка ішла пра наступствы ўваходжання краіны ў ЕС, некаторыя пласты насельніцтва, асабліва сяляне, выказвалі моцную заклапочанасць і поўны недавер.

Перад намі паўстала безліч спраў. Мы павінны былі змяніць сотні законаў, арганізаваць працу дзясяткаў тысяч службоўцаў, дапамагчы мясцовым уладам і органам самакіравання, падрыхтаваць бізнэс. І ўся гэта велізарная работа была выканана своечасова і на патрэбным узроўні. Ды так, што калі нарэшце мы ўступілі ў



ЕС, то здолелі атрымаць ад гэтага вельмі значную карысць.

Цяпер ніводная палітычная партыя краіны не пярэчыць знаходжанню ў ЕС. А палякі належаць да найбольш еўраоптымістычнага грамадстваў у Еўропе.

***— Ці была ў Польшчы альтэрнатыва ўваходжанню ў ЕС?***

— Не, не было ніякай разумнай альтэрнатывы. Мы павінны былі 20 гадоў таму зрабіць такі асноватворны выбар у дзвюх плоскасцях — бяспецы і эканоміцы. Калі ў 1990 годзе па ініцыятыве яшчэ СССР у эканамічных разліках паміж краінамі былога савецкага блока было вырашана карыстацца цвёрдымі валютамі, а не так званым трансферным рублём, польскі экспарт у СССР на працягу года абваліўся на 50%. Мноства прадпрымальнікаў тады збанкрутаваліся, і мы былі змушаныя пераарыентоўваць нашы эканамічныя сувязі. І гэта ў нас атрымалася. Вядома, працэс ішоў вельмі клапотна, хваравіта, мы плацілі за гэта высокі кошт, але ў нас усё атрымалася. Праз 2–3 гады ўжо больш за дзве трэціны нашага экспарту ішло на заходнія рынкі. Таму выбар шляху да ЕС быў відавочны.

ЕС быў і застаецца найвялікшым эканамічным патэнцыялам свету, гэта супольнасць дзяржаў, якія праз прызму свайго гістарычнага досведу зразумелі, што еўрапейская бяспека, стабільнасць патрабуюць салідарнасці, узаемадапамогі, пэўных высілкаў.

На той час, па-першае, нам надзвычай важна было знайсці дапамогу, і гэта дапамога з сённяшняй перспектывы здаецца проста велізарнай. Па-другое, мы хацелі атрымаць магчымасць уплываць на тое, што робіцца ў Еўропе, і адначасова, праз удзел у еўрапейскай супольнасці, займець значны ўплыў на глабальныя справы. Таму што ніводная з еўрапейскіх дзяржаў не мае прыкметнага ўплыву на сусветныя справы. Але Еўрапейская супольнасць па-ранейшаму захоўвае гэты ўплыў.

І я яшчэ раз падкрэслю, што ніякай рэальнай альтэрнатывы ўступленню ў ЕС не было.

***— Але ці магла Польшча, будучы па-за межамі ўсялякіх саюзаў, абраць сабе ролю моста паміж Усходам і Захадам?***

— Гэта канцэпцыя — адыгрываць ролю моста паміж Усходам і Захадам — фігуравала ў польскіх палітычных дыскусіях дваццаць гадоў таму. Але ў рэальнасці нам не ўдалося яе ажыццявіць, і цяпер яна ў значнай ступені недасяжная, у тым сэнсе, што краіны Заходняй Еўропы паступова самі наладзілі кантакты з галоўным усходнім партнёрам — з Расіяй. Напрыклад, Германіі на дадзены момант ужо не патрэбны пасярэднік для ўзгаднення сваіх стасункаў з Расіяй.

***— Якія сённяшнія перспектывы Польшчы ў ЕС? Якая роля ў далейшым чакае вашу краіну?***

— Сёння Польшча павінна будаваць сваю пазіцыю ў Еўропе за кошт узмацнення і ўдасканалення ўласнай эканомікі. У нас ёсць розныя козыры, але сёння гэтыя козыры пакуль нельга выкарыстоўваць. Наш эканамічны патэнцыял па-ранейшаму меншы, мы толькі даганяем. Аднак розніца паміж ВУП у Польшчы і сярэднім у ЕС апошнім часам прыкметна скарацілася. Наша эканоміка паранейшаму расце, а ЕС апынуўся ў стагнацыі. Такая сітуацыя, хоць мы гэтым і не цешымся, нам трохі спрыяе ў тым сэнсе, што ў Італіі праблемы, у Іспаніі праблемы, а Польшча з'яўляецца адной з нешматлікіх краін, дзе менш цяжкасцяў. Яны таксама ёсць, але меншыя. І ўсё разумеюць, што гэта становішча з'яўляецца вынікам нашай уласнай палітыкі ў мінулым. Мы 15 гадоў таму ўвялі ў канстытуцыю парог знешняга доўгу, які толькі цяпер уводзіцца ў Еўропе з дапамогай так званага стабілізацыйнага пакту.

Можна нават весці гаворку пра ціхую рэвалюцыю, што адбылася ў нашым грамадстве. Я маю на ўвазе рэвалюцыю ў адукацыі. У Польшчы ў неверагоднай ступені развілася вышэйшая школа, і адсотак людзей ва ўзросце 19–24 гадоў, якія сёння вучацца, дасягнуў 80%. Па гэтым паказчыку мы з'яўляемся другой краінай у свеце. На першым месцы — Аўстралія, у якой 82%. ЗША маюць 67%. Мы ў гэтым плане — найлепшыя ў Еўропе.

Сёння ўжо 30% дарослых палякаў маюць дыпломы ВНУ. І гэта тэндэнцыя ўзмацняецца. У нас пры такім развіцці падзей праз 10–15 гадоў кожны другі дарослы чалавек будзе мець вышэйшую адукацыю. Гэта вельмі цэнніца, і будзе цаніцца яшчэ больш. Пры зменах, якія адбываюцца ў сучасным свеце, пры з'яўленні новых эканамічных магутнасцей, пры надзвычайнай канкурэнцыі адзіным шанцам для ўсёй Еўропы з'яўляецца выкарыстанне свайго інтэлектуальнага патэнцыялу: навуковага, даследчыцкага, адукацыйнага.

Узровень адукацыі ў Еўропе па-ранейшаму вышэйшы, чым у Кітаі, Бразіліі і г.д. Таму Еўропа патэнцыяльна больш інавацыйная, яна можа лепш прыстасоўвацца да новых умоў у свеце, высокакваліфікаваныя працаўнікі больш гнуткія, яны прасцей мяняюць прафесію. У гэтым патэнцыйная перавага Еўропы і патэнцыйная перавага Польшчы. Калі мы навучымся напоўніцу яе выкарыстоўваць, будзем мадэрнізаваць эканоміку ў такім накірунку, каб маладое пакаленне высокаадукаваных палякаў без цяжкасці магло знайсці працу, рэалізаваць усе свае амбіцыі, і ў цэлым гэта ўмацуе становішча Польшчы ў ЕС.

Шмат залежыць і ад палітыкі, якую мы праводзім: ці дастаткова мы спрытныя ў заключэнні разнастайных пагадненняў і стварэнні кааліцый у ЕС, ці можам супрацоўнічаць або, наадварот, больш схільныя ды эгаістычных паводзінаў, напрыклад, блакавання важных еўрапейскіх праектаў. Мы вымушаныя нават і зараз штосьці блакаваць. Напрыклад, 7 гадоў таму тагачасны ўрад заблакаваў мандат ЕС, калі вяліся перамовы з Расіяй аб новым парадку партнёрства. І сучасны наш ўрад аспрэчвае некаторыя рашэнні ЕС, звязаныя з аховай асяроддзя. Гэта сітуацыя даволі супярэчлівая. Бо дзяржава, якая лёгка карыстаецца зброяй такога кшталту, часта церпіць паразу. Таму што супольнасць мае сваю логіку. Гэтая логіка — гатоўнасць да супрацоўніцтва з улікам сваіх інтарэсаў.

Але ніколі нельга забывацца на агульны інтарэс і на тое, што мы з'яўляемся супольнасцю. У гэты нялёгкі для Еўропы час эканамічных цяжкасцяў узнікаюць розныя новыя тэндэнцыі, якія, акрамя ўсяго, могуць прывесці да раз'яднання. Польшча ўвесь час гэтаму супраціўляецца. І спадзяюся, што наша супольнасць еўрапейскіх краін паспяхова пераадолее ўсе цяжкасці.

Працяг на стар. 12

ВЫБАРЫ

# У ІХ НЕ СУМНА!

Алег НОВІКАЎ

**Экспертная супольнасць Украіны аналізуе галоўныя вынікі парламенцкіх выбараў, якія адбыліся 28 кастрычніка. Прапануем вашай увазе агляд украінскай аналітыкі і прэсы.**



Першая выснова: парламенцкія выбары ва Украіне нават з улікам таго, што заходнія наглядальнікі назвалі іх «крокам назад», усё ж больш адпавядаюць еўрапейскім стандартам, чым беларускія.

Палітолаг Кастусь Бандарэнка слушна заўважыў: «Украінскія палітыкі, незалежна ад таго, праўладныя яны ці апазіцыйныя, паказалі, што яны могуць рабіць выбары, за якія не сорамна перад светам».

Што тычыцца непасрэдных вынікаў, то на першы погляд перамагла Партыя рэгіёнаў. Гэта прызнае нават «Украинская правда» — вядучы апазіцыйны інтэрнэт-партал: «Партыя рэгіёнаў святкуе не проста перамогу. Рэгіяналы адназначна атрымалі перамогу ў асабістым заліку. Трыццаць з лішнім адсоткаў галасоў — гэта ўсяго толькі на некалькі адсоткаў менш, чым у 2006 годзе, калі Віктар Януковіч і яго каманда знаходзіліся ў апазіцыі. У той жа час, невялікая перавага, якую могуць атрымаць апазіцыйныя сілы ў камандным заліку, пераканаўча абараняе Партыю рэгіёнаў ад абвінавачванняў у зачыстцы апазіцыйных сіл».

Аднак пры бліжэйшым разглядзе перамога выглядае не такой ужо і бліскучай. Нават у электаральных бастыёнах бела-сініх увечары 28 кастрычніка ніхто не святкаваў перамогу. Шмат у каго стварылася ўражанне, што «Партыі рэгіёнаў» удалося сцэментаваць выбаршчыкаў, галасаваўшых за яе, аднак пры гэтым яны выразна даюць зразумець, што жадаюць чагосьці іншага. Часткова гэта звязана з заканчэннем палітычнага цыклу. Палітолаг Сяргей Нікіфараў зазначае: «Завяршыўся перыяд пасля аранжавай рэвалюцыі, калі краіна была падзелена на бела-блакітную і аранжавую часткі. Ужо выразна пазначаны тэндэнцыі змены палітычных дэкарацый. Адбываецца з'яўленне новых палітычных сіл і лідараў, якія выцясняюць тых, хто ўвасабляў сабой ранейшую палітычную эпоху. Гэта больш прыкметна на тым полюсе, які традыцыйна фарбуюць у аранжавы колер. Там з'явіліся партыі «Свобода», «УДАР». А вось бела-блакітны пояс пакуль замарожаны ў партыі ўлады, і там прыкметных зрухаў не адбываецца».

Як будзе Януковіч вырашаць гэту праблему, пакуль не зразумела. А можа і вырашаць яе не давядзецца. Усё будзе залежаць ад таго, ці атрымаюць Партыя рэгіёнаў і іх саюзнікі канстытуцыйную большасць, якая дасць ім права змяніць Канстытуцыю і правесці рэформу, паводле якой абіраць прэзідэнта ў 2015 годзе будуць у парламенце. Усё стане вядома, калі са сваёй пазіцыяй вызначыцца група незалежных дэпутатаў.

Выбары–2012 сталі сінонімам пратэстнага галасавання. Пра гэта цудоўна сведчыць статыстыка ў рускамоўным Кіеве, дзе «Свабода» атрымала 17 працэнтаў. Дзякуючы пратэстным галасам у парламенце з'явіўся «УДАР». Віталь Клічко разглядаецца ўсімі як адзін з рэальных кандыдатаў на прэзідэнцкіх выбарах 2015 года. Ён — рускамоўны палітык, які пры гэтым выступае супраць інтэграцыі з Расіяй і можа задаволіць і ўсходніх, і заходніх выбаршчыкаў. Але, паводле меркавання палітолага Канстанціна Мацвіенкі, «галоўнай пагрозай для партыі Клічко ёсць час. Цяпер давядзецца штодня замацоўваць свае права на лідарства ідэямі і справамі, а гэтыя рэсурсы — найбольш дэфіцытныя ва ўкраінскай палітыцы».

Што да ацэнак агульных вынікаў для галоўнай апазіцыйнай партыі, то ўсе прызнаюць, што «Бацькаўшчына» выступіла някепска. Настрою аранжавым надаюць вынікі бітвы за сталіцу. Тут яны яўныя пераможцы. Гэта добры вынік перад хуткімі выбарамі кіеўскага мэра.

Безумоўна, шмат пішуць аб прарыве «Свабоды» і яго наступствах. Пры гэтым мала хто звяртае ўвагу на праграму партыі, якая вылучае такое патрабаванне, як пакаранне штрафамі за публічнае ўжыванне рускай мовы. Відавочна, што гэта чыстая дэмагогія. «Свабода» будзе хутчэй ускосным чыннікам, які паўплывае на глабальны палітычны расклад супрацьстаяння Рэгіёнаў і аранжавых.

Існуе меркаванне, што з'яўленне ў парламенце «Свабоды» хутчэй на руку Партыі рэгіёнаў, чым апазіцыі. Гэты праект будзе палохаць электарат Партыі рэгіёнаў і прымушаць яго мабілізавацца на выбарах. Палітолаг Міхаіл Дубінянскі сцвярджае: «Публіка, якая прагаласавала за радыкалаў на зло Януковічу, рызыкуе толькі падыграць дзейнаму кіраўніцтву. Грымучы нацыянал-камуністычны кактэйль для Партыі рэгіёнаў больш карысны, чым кааліцыя з КПУ. Калі ў парламенце ідуць чырвона-карычневыя разборкі, уладзе вельмі зручна стаяць над сутычкай, выстаўляючы з сябе апору міру і разважнасці. Глядзіш, спалоханы абывацелі і палічаць уладу меншым злом».

Нацыянал-дэмакратычная газета «День» лічыць, што Партыя рэгіёнаў, якая негалосна раскручвала «Свабоду» для расколу аранжавых, дагуляецца: «Выбары прадэманстравалі вялікую чытку пратэстнага электарату. Гэта можа стаць трывожным званком для ўлады. Калі яны будуць і надалей працягваць такую палітыку, грамадства яшчэ больш радыкалізуецца. Можа адбыцца некантралюемы сацыяльны выбух. Сляпая стыхія не пашкадуе нікога».

Цікавы аналіз прыходу нацыянал-радыкалаў у парламент прапанаваў лідар камуністаў Пётр Сіманенка. Ён назваў гэта трагедыяй, паколькі, на яго думку, за «Свабодай», стаяць пэўныя колы прадпрымальнікаў. Дарэчы, Кампартыя набрала амаль 12 працэнтаў, якія таксама звязваюць з феноменам пратэстнага галасавання. «Калі цягнібокаўцы сталі пратэстнай аддушынай для аранжавага электарату, то камуністы — для бела-сіняга Паўднёвага ўсходу», — піша газета «Сегодня».

Да пазітыўных вынікаў выбараў амаль усе запісалі правал (1,5%) тэхнічнага праекту «Украина — вперед», які фінансаваў Рэнат Ахметаў. Гэта значыць, што выбаршчыкі пачалі разумець прыроду падобных праектаў. «Наталля Каралеўская (лідар блоку), з яе мільёнамі, футбалістамі і артыстамі, праваліласся, паколькі не несла за сабой ніякага зместу», — адзначае палітолаг Аляксандр Палый.

Нарэшце, выбары сталі таксама палітычным пахаваннем Віктара Юшчанкі: яго партыя «Наша Украіна» сабрала адзін працэнт галасоў.

Як значны пазітыў расцэньваюць вынікі выбараў у Дарніцкім раёне Кіева, дзе ў Раду ішоў Алег Доўгі — былы наменік эксмэра Леаніда Чарнавецкага. Ён праславіўся сацыял-папулізмам, літаральна закарміў пенсіянераў прадуктовымі пайкамі і іншымі падарункамі. Аднак народ не даў сябе купіць. Алег Доўгі прайграў. Правал палітыка, чыё імя стала сімвалам папулізму і карупцыі, дазволіў «Украинской Правде» канстатаваць: «У грамадстве на самай справе не ўсё так дрэнна».

І яшчэ адна выснова. Сёлета, нягледзячы на меншую яўку, чым на папярэдніх выбарах, дэмакратыя ва Украіне насамрэч усталявалася. Газета «Сегодня» зазначае: «У чым перавага ўкраінскай недадэмакратыі перад расійска-беларускай стабільнасцю? У нас не сумна!»

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### ЯЎГЕН ШАЎЧУК



Новы прэзідэнт Прыднястроўя стаў ахвярай сваёй занадта заўзятай кампаніі па пераследу карупцыі ўнутры атачэння былога прэзідэнта Ігара Смірнова. У сакавіку сілавікі ПМР узялі пад варту Аксану Іонаву, былога кіраўніка цэнтральнага банку Прыднястроўя. Пасля таго, як яе бос прайграў выбары, Аксана збегла ў Расію, аднак яе падманам выцягнулі ў Цірасполь і арыштавалі. Следчы камітэт РФ не выключае дачынення спадарыні Іонавай да крадзяжу гуманітарнай дапамогі пампера́м у 160 мільёнаў рублёў (5 мільёнаў долараў), выдадзенай Расіяй Прыднястроўю. Арыштаваўшы Іонаву, Шаўчук святкаваў перамогу над карупцыяй, аднак тут адбыўся канфуз. Стала вядома, што ў канцы верасня Аксана Іонова прайшла ў турме медыцынскі агляд, якога доўга дамагалася, у тым ліку гінеколага. Пры гэтым сама працэдура праводзілася ў прысутнасці васьмі мужчын — супрацоўнікаў аховы следчага ізалятара, што, на думку грамадства, выходзіць за ўсе разумныя рамкі дапушчальных нормаў паводзін. «Гэта ставіць рэжым Шаўчука на адну дошку з Садамам, Кадафі і іншымі, падобнымі да іх», — напісаў адзін з журналістаў. Такім чынам, Шаўчук трапіў у пастку. Па вялікім рахунку, пасля таго, што адбылося, трэба аслабляць рэжым утрымання Іонавай. У сваю чаргу, каманда Яўгенія Шаўчука разумее, што вызваленне з-пад варты Іонавай, якая з'яўляецца адной са знакавых асобаў фінансавых злоўжыванняў перыяду кіравання Ігара Смірнова, будзе першай сур'ёзнай і сімвалічнай паразай на шляху барацьбы новай адміністрацыі з карупцыяй.

### ТАМІСЛАВ НІКОЛІЧ



Прэзідэнт Сербіі зрабіў трохдзённы афіцыйны візіт у Македонію, дзе сустрэўся з македонскім калегам і мясцовым прэм'ер-міністрам. Візіт быццам бы звычайны, калі б не адна справа. Напярэдадні візіту Ніколіч заявіў пра намер дабіцца прымірэння паміж Сербскай праваслаўнай царквой і кананічна не прызнанай Македонскай праваслаўнай царквой (МПЦ). Македонская праваслаўная царква як аўтакефальная была ўтворана ў 1967 годзе рашэннем Царкоўна-народнага сабора насуперак Сербскай праваслаўнай царкве (СПЦ), якая лічыць Македонію сваёй кананічнай тэрыторыяй. Па сутнасці, гэта быў прарыў мясцовых нацыяналістаў, якіх падтрымаў Ціта. Рашэнне таго сабора СПЦ не прызнала і нават дабілася, каб міжнародная праваслаўная супольнасць статусу МПЦ таксама не прызнала. Больш за тое, у 2005 годзе сінод Сербскай праваслаўнай царквы адлучыў ад царквы ўсіх вернікаў, якія належаць да Македонскай праваслаўнай царквы. На папулярнасць МПЦ, здаецца, гэта не паўплывала: паства царквы складае мінімум дзве трэці ад агульнай колькасці праваслаўных македонцаў. І вось цяпер Ніколіч захацеў паставіць кропку ў канфлікце. «Адкрытая размова дзвюх дзяржаў можа паўплываць на пошук рашэння праблем паміж цэрквамі. Я прапаную сесці і пагаварыць пра ўсё», — заявіў Ніколіч. Пакуль прэса не піша, ці ўдалося прэзідэнту навесці масты паміж СПЦ і МПЦ.

### КАХА КАЛАДЗЕ



Вядомы грузінскі футбаліст, які гуляў за кіеўскае «Дынама» і «Мілан», нечакана для ўсіх атрымаў пасаду міністра энергетыкі ў новым урадзе Іванішвілі. Каха, які ішоў на выбары ў топе партыйнага спісу блоку «Грузінская мара», меўся і так нешта атрымаць падчас раздачы міністэрскіх партфеляў. Хадзілі чуткі, што яму дастанецца Міністэрства спорту, аднак у апошні момант Іванішвілі вырашыў, што Каладзе зможа рэалізаваць сябе менавіта на пасадзе міністра энергетыкі. Казаць пра якую-небудзь кампетэнтнасць былога абаронцы «Мілана» ў галіне энергетыкі не даводзіцца. Па адукацыі ён гісторык, скончыў гістфак Тбіліскага дзяржуніверсітэта, з 11 гадоў гуляў у футбол і завяршыў кар'еру спартоўца толькі ў мінулым годзе. Першае, што зрабіў новы міністр, заявіў, нібы збіраецца прывесці ў міністэрства сваю каманду. З вуснаў былога футбаліста такое абяцанне гучыць двухсэнсоўна. У прынцыпе, выбар на карысць Каладзе адпавядае агульнаму іміджу ўрадавай палітыкі Іванішвілі. Ва ўрадавай праграме, у якой распісаны мэты і задачы новых улад, няма ніводнай даты, няма ніводнай лічбы, няма нават указання прыблізнага перыяду выканання той ці іншай рэформы. Першыя крокі паказалі супярэчлівасць пазіцый суб'ектаў кааліцыі. У выніку захаваўся Саакашвілеўскі статус-кво ў шматлікіх галінах, напрыклад, у абхазскім пытанні. Між тым, у самой краіне хутка нарастае сацыяльная і крымінальная напружанасць. Пакуль крэдыт даверу да новага рэжыму трымаецца на абяцанні прэм'ера ўзняць пенсіі і давесці мінімальны заробак да пражытковага ўзроўню. Праўда, зрабіць гэта ён здольны выключна за кошт асабістых запасаў, і не факт, што іх надоўга хопіць.

ФІЛАСОФІЯ

# Валянцін Акудовіч: «НАПЕРАДЗЕ — БЯЗЛАДНЫ ВЭРХАЛ…»

**Класік сучаснай філасофіі, літаратар і жартаўнік пагутарыў з журналістам НЧ Аленай Барэль аб палітычных курдупелях, страйку на галерах Гаспадара, пошуках радовішчаў адэкватнай часу ўлады і аб тым, каму трэба натаўчы ў каршэнь, а на развітанне даць добрага выспятку.**



Беларускі філосаф Валянцін Акудовіч

## Дзе Акудовіч — у бульбе ці ў лесе?

***— Апошнім часам вас амаль немагчыма знайсці — мабільнік выключаны, ніхто не ведае, дзе вы. Стаміліся ад увагі прэсы, мітусні, ці сапраўдны філосаф павінен быць пустэльнікам і «мець свой сум», каб «у пару забуяла бульба»?***

— І першае, і другое, і трэцяе. Але апошняе — перадусім. З гадамі патрэба адлюдства робіцца ўсё больш актуальнай. Яшчэ раней прамовілася: «У мае гады людзі ўжо не цікавяць, а толькі аблокі». Таму, як сапраўдны беларус, я і «хаваюся ў бульбу». Вядома, якая з той бульбы хованка — галава ў бацвінні, а азадак вытыркаецца кожнаму воку.

***— Дзе бавіце час і чым зараз займаецеся?***

— Летам, як звычайна, вандраваў з сябрамі на байдарках па рэках і азёрах Беларусі. Гэтым разам абралі азёры Мястра і Нарач, а затым па рэчцы Нарачанка плылі да Вяллі. Шлях выдаўся досыць напружаным, аднак і прыемнасцяў было з каптуром. Потым, як пайшлі грыбы, дык вымагаўся з апошняга, каб толькі апынуцца ў лесе. Уся лядоўня запханая грыбамі, а ў склепе чакаюць свайго часу бочачкі з засоленымі ваўнухамі ды груздамі. Лес — маё адхланне. І калі Караткевіч меў рацыю, вызнаўшы, што «на Беларусі Бог жыве», дык жыве ён у лесе. Дакладней, Лес і ёсць нашым (прынамсі, маім) Богам… А займаюся я цяпер шмат чым, але найперш падрыхтоўкай да публічнай лекцыі ў «Лятучым універсітэце» і адначасна да прэзентацыі маёй апошняй кнігі, якая называецца «Кніга пра Нішто». Яна вельмі для мяне важная, бо тут задзіночанае ўсё маё думанне аб тайніцах — Няма, Нішто, Адсутнае, якія вярэдзілі мяне праз усё маё жыццё. Дарэчы, лекцыя разам з прэзентацыяй адбудуцца 2 лістапада ў галерыі «Ў» а 18:30.

***— Назва папярэдняй вашай кнігі «Архіпелаг Беларусь», складзенай з фрагментаў інтэрв'ю за васямнаццаць гадоў, перагукаецца з «Архіпелагам ГУЛАГ» Салжаніцына выпадкова ці не?***

— Што да тыпалагічнага падабенства, дык цалкам выпадкова. Мне пра гэта нагадалі чытачы, калі я ўжо надрукаваў эсэ «Архіпелаг Беларусь». (Праз шмат год яго назва і будзе скарыстаная для кніжкі.) Нават дзіўна, што я ні разу не згадаў Салжаніцына, пакуль пісаў тое эсэ. Зрэшты, можа нічога дзіўнага ў гэтым і няма, бо маё мысленне тады (на маё шчасце) яшчэ не было спалітызаваным. На тую пару Беларусь мяне вярэдзіла толькі ў метафізічным дыскурсе.

## Волат у палітыцы неўпрыкмет ператвараецца ў курдупеля

***— Гадоў сем таму вы распавядалі мне пра вясёлкавую будучыню Беларусі: не газ ці нафта, а прэсная вада стане галоўным багаццем у свеце, і наша краіна блакітных азёраў — манапалістам, якія будзе вырашаць, каму колькі даваць вадзічкі. Ці змянілася вашае меркаванне адносна квітнеючай будучыні радзімы?***

— Не, не змянілася. Толькі сёння да вады я б яшчэ далучыў лясы, балоты і пакуль яшчэ не знойдзеныя радовішчы адэкватнай часу палітычнай улады. Бо без вынаходніцтва апошняга мы можам змарнаваць не на ўласную карысць усе тые прыродныя скарбы. Зрэшты, для беларусаў будучыня заўсёды праменілася святлом. Згадайма хаця б назву легендарнай выдавецкай суполкі «Загляне сонца ў наша аконца». І хаця тая рамантычная вера ў прышласць, што была агучаная на пачатку XX стагоддзя, тым жа стагоддзем была і спляжаная да звання, сёння я не бачу ніякіх падставаў, каб у нас і надалей адбываннe быцця заставалася не як у людзей. Натуральна, наперадзе нас яшчэ чакае бязладны вэрхал пасля дзесяцігоддзяў «апошняй дыктатуры Еўропы», але ж яна сапраўды будзе апошняй.

***— Яшчэ адно пытанне «праз гады»: айчынныя палітычныя «курдупелі» (так на радзіме Акудовіча клічуць недамеркаў — А.Б.), пра якіх мы калісьці вялі гаворку, эвалюцыянавалі ў волатаў? Ці гэта немагчыма ў «Беларусі як постмадэрновым праекце Бога»?***

— Палітыка з сутнасці самой сябе не толькі зніжае, але і прыніжае чалавека. Таму нават калі ў палітыку прыходзіць «волат», ён неўпрыкмет і для самога сябе ператвараецца ў курдупеля. Асабліва гэта небяспечна для творчага чалавека. І зусім ужо бяда, калі ён да таго ж сумленны чалавек. «Не ходите дети в Африку гулять…» У вышэй згаданай вамі кнізе ёсць радкі: «Божа, цяпер я ведаю, якой была Твая апошняя кара нябесная. Сыходзячы ў нябыт, Ты аддаў нас у рукі палітыкаў». І цяпер гэтыя злосныя, закамплексаваныя недамеркі кіруюць светам і Беларуссю таксама. Можа, якраз таму, што постмадэрновы праект яшчэ не стаўся рэальнасцю Беларусі?..

## Калі застрайкуем цывілізавана?

***— Вы мяркуеце, цытую, што «ўсяму свету вядома, што нават авечкі нам у паслухмянстве саступаюць» і «нашае майстэрства трываць ды жаліцца здавён цікавіла вучоных». Ці ўсё ж саспеў беларус для глабальнага страйку на рудніках і галерах свайго Гаспадара?***

— Верагодна, пакрысе мы забудземся на анталагічны кон свайго мужыцкага паклікання, набяромся шляхецкай годнасці і насамрэч (а не толькі ў паэтычных парываннях) зажадаем «людзьмі звацца». Тады, як будзе на тое патрэба, і застрайкуем цывілізавана. Але пакуль мы здольныя адно на бунт, што і натуральна, бо рабы і галернікі прагнуць толькі самім вырвацца з пекла, а не збудаваць рай для ўсіх. Між іншым, я ўвогуле досыць скептычна стаўлюся да сацыяльных пратэстаў як меры спеласці грамадства. Звычайна сацыяльна-палітычныя пратэсты найперш сведчаць, што грамадству зажадалася болей таго, чаго яно на гэты момант вартае.

***— Вы неяк казалі, што чаканне свабоды не павінна быць пасіўным…***

— Знакамітая кітайская показка распавядае, што калі доўга, вельмі доўга сядзець на беразе рэчкі, дык некалі пабачыш, як труп тваёго ворага праплывае паўз цябе. Эўрыстыка неверагодная, таму показка і праз вякі памятаецца. Але я яе згадаў адно дзеля таго, каб заўважыць, што марна сядзець і выглядаць на даляглядзе смерць ворага тваёй свабоды. Бо ў тваёй свабоды ёсць толькі адзін вораг — гэта ты сам. І таму пакуль ты не падымеш свой азадак і не зробіш хоць колькі крокаў наўзбоч сваёй нерухомасці, да той пары і будзеш сядзець на «парашы».

***— Дзе тое выйсце для краіны, якое стане яе ўваходам у Еўропу і цывілізаванае жыццё?***

— У канцы тунэля…

## Любоў да Беларусі як вычварэнства

— Вы казалі, што большасць свядомых носьбітаў роднай мовы скончылі жыццё калі не ў Курапатах, то ў галечы. Які лёс чакае сённяшніх беларускамоўных?

— «Палюбіць Беларусь — і не памерці» (Ліда Налiўка). Надзвычай глыбокая і дакладная паэтычная філасафема беларускай сітуацыі. У ранейшыя часы любоў да Беларусі рэальна пагражала твайму фізічнаму існаванню, сёння — экзістэнцыйнаму. Вельмі не проста берагчы гэтую любоў праз усё жыццё, калі пануючая ўлада і бальшыня грамадства яе лічыць не толькі дурноццем, але і вычварэнствам, кшталту нетрадыцыйнай сэксуальнасці. Зрэшты, і хай сабе, затое ў нас ёсць вялікая любоў, а што маюць яны?

***— Беларускасць застаецца прытулкам толькі для інтэлектуалаў — гэта захад нацыі?***

— Калі б мы жылі не на пачатках постнацыянальнай эпохі, дык я сказаў бы цалкам наадварот: у актуальным нам свеце без трывалых інтэлектуальных дыскурсаў паўнавартасная нацыя немагчымая, таму яны не «захад», а «ўсход» (нарэшце «заглянула сонца ў наша аконца»). Але калі тэарэтыкі і пасняшаліся з прагалошваннем «постнацыянальнай эпохі», дык усё роўна сучасная сітуацыя выглядае куды больш складанай і пакручастай, раўнуючы з тым, як бачылася праблема нацыянальнага ідэолагам беларускага Адраджэння на пачатку 90-х гадоў XX стагоддзя. Толькі ў нашай кароткай гаворцы яе не прасветліш…

## «Натаўчыце яму ў каршэнь, а на развітанне дайце добрага выспятку!»

***— «Мы сеялі жыта, гадавалі дзяцей, слухаліся Бога, і нам было добра. Але неяк прывалокся да нас адзін разумнік…» Ці падкажа філосаф нашчадкам атэістаў, як вярнуць вытрачаную за 70 гадоў веру?***

— Калі гэта пытанне да наратара (апавядальніка), дык ён вам адкажа тымі ж самымі словамі: «Сеяць жыта, гадаваць дзяцей і слухацца Бога». Калі гэта пытанне да аўтара (Валянціна Акудовіча) кнігі «Дыялогі з Богам», скуль узятая цытата, дык я не памятаю, што аўтар тады думаў, бо пісалася яна ўжо досыць даўно. Калі гэта пытанне да мяне сённяшняга, дык у якасці адказу я проста згадаю першы радок з «Кнігі пра Нішто»: «Калі я ў нечым і падобны да Бога, дык гэта найперш у тым, што нас абодвух няма».

Але, незалежна ад маіх адказаў, трэба ясна ўсведамляць, што, у адрозненне ад постнацыянальнай эпохі, пачаткі пострэлігійнай эпохі досыць каркэтна звязваць яшчэ з апошняй чвэрцю XIX стагоддзя, і яны ўмоўна могуць быць пазначаныя знакамітым здумленнем Фрыдрыха Ніцшэ аб смерці Бога. Шматлікія сацыялагічныя і аналітычныя даследаванні засведчылі проста жахлівае зніжэнне патрэбы ў рэлігійных канонах у другой палове нашага стагоддзя, і гэта тычыцца ўсіх веравызнанняў. Натуральна, нічога добрага ў гэтым няма, бо той свет, які мы ведаем, пераважна ствараўся рэлігійным, у сваёй сутве, чалавекам. І калі рэлігійны чалавек ужо не галоўны чалавек на зямной кулі, дык, значыць, нас усіх чакаюць глабальныя перамены. І хто сёння скажа, што для нашага свету яны будуць да лепшага?!

***— Вы не зважаеце на Багушэвіча і Міцкевіча, каб глядзець на Беларусь, нічога не ведаючы аб ёй для чысціні ўспрымання. «Разбураеце» Парыж, каб убачыць Мінск у яго сапраўднай значнасці. І як чалавек, якога «няма», пэўна, ведаеце, якім чынам нам пераадолець усё, што нас раз'ядноўвае, — ад каланіяльнай гісторыі да зрусіфікаванай дзяржавы?***

— Калі нехта запэўніць вас, быццам нешта такое ён дакладна ведае і гатовы нават прадэманстраваць на практыцы, дык натаўчыце яму ў каршэнь, а на развітанне дайце добрага выспятку! Ад такіх «ведуноў» у нас уся зямля ў «Курапатах»…

РЭЦЭНЗІЯ

# БЕЛАРУСКАЯ ІДЭАЛОГІЯ: У ПОШУКАХ ІСЦІНЫ

Ігар МЕЛЬНІКАЎ

**Калі мы чуем слова «ідэалогія», перад нашымі вачыма адразу ўсплываюць афіцыйныя падручнікі, выкананыя ў чырвона-зялёнай стылістыцы, нудныя лекцыі ў школах і ўніверсітэтах ды «правільныя» перадачы на дзяржаўным тэлебачанні. Аднак за ўвесь апошні час, пакуль афіцыйныя дзяржаўныя структуры працуюць над вырашэннем пытання беларускай ідэалогіі, наша грамадства так і не наблізілася да разумення таго, якім па сутнасці павінен быць ідэалагічны складнік нашага жыцця.**




Адной з першых спроб альтэрнатыўнага погляду на праблемы сучаснай беларускай ідэалогіі з'яўляецца новы зборнік навуковых артыкулаў, выдадзены пад рэдакцыяй Анатоля Тараса «Проблемы современной белорусской идеологии. Материалы научно-практической конференции (Минск, 3 ноября 2012)».

У прадмове рэдактара падкрэсліваецца, што яго аўтары «прадстаўляюць або грамадскія арганізацыі, або саміх сябе. Ніякіх стасункаў з дзяржаўнымі структурамі ў іх няма». Гэта азначае, што ў зборніку мы бачым у нейкім сэнсе новы і досыць грунтоўны погляд на дадзеную праблематыку.

Кніга складаецца з дзвюх частак. У першай прадстаўлены даклады, напісаныя на рускай мове, у другой — на беларускай. Усяго ў зборніку 20 навуковых артыкулаў. Аўтары даследавання звярнуліся да разгляду розных аспектаў праблемы фармавання сучаснай беларускай ідэалогіі. Напрыклад, сацыёлаг Аляксей Пікулік апісвае рэальнае становішча, у якім знаходзіцца сённяшняе беларускае грамадства. Аўтар падкрэслівае, што «асаблівасць беларускай дзяржаўнай ідэалогіі палягае ў тым, што яна з'яўляецца праектам зверху, які праз апараты дзяржавы (як рэпрэсіўныя, так і ідэалагічныя) транслюецца ўдзячнаму насельніцтву», пры гэтым, на думку аўтара, «Беларусь не эксплуатуе нацыяналістычны дыскурс, які б падкрэсліваў унікальнасць краіны. Заменай нацыяналізму служыць ксенафабічнасць ідэалагічнага праекта, яднаючая нацыю ў барацьбе з агульным злом».

Асобны блок матэрыялаў прысвечаны аналізу перспектыў развіцця беларускай нацыянальнай ідэалогіі. Так, у сваім артыкуле Анатоль Тарас заклікае выкарыстаць у якасці асноўнага ідэалагічнага пастулата «прыгожы нацыянальны гістарычны міф», заснаваны на адмаўленні генетычнага адзінства ўсходніх славян, падкрэсліванні беларускасці Вялікага Княства Літоўскага, дыстанцаванні ад Расіі». Пры гэтым аўтар выступае за штучную самаізаляцыю Беларусі ад глабалізацыйных працэсаў, якія адбываюцца ў Еўропе. На яго думку, «агульнаеўрапейскі праект» з'яўляецца шляхам да катастрофы. Як бачым, такое меркаванне зблізае погляды Тараса з пастулатамі беларускіх улад, якія крытычна ставяцца да інтэграцыі ў еўрапейскую прастору. На мой асабісты пункт гледжання, краіна, якая знаходзіцца на перакрыжаванні геапалітычных шляхоў і інтарэсаў Расіі і Еўразвязу, не зможа «варыцца ва ўласным соку» і рана ці позна актыўна ўключыцца ў сусветны глабалізацыйны працэс. І да гэтага нам, беларусам, трэба быць добра падрыхтаванымі. Сённяшняя сітуацыя даказвае, што які б характар самаізаляцыі ні мела: прасавецкі (як зараз) ці нацыяналістычны (як прапаноўвае Тарас) — гэта памылковы шлях.

Неабходнасць пабудовы беларускай нацыянальнай ідэалогіі з нацыяналістычных пазіцый спрабуе абгрунтаваць і палітолаг Алег Краўцоў. Даследчык адзначае неабходнасць змены характарыстыкі беларускай нацыі як сялянскай на сялянска-шляхецкую. Здзіўляе прапанова А. Краўцова аб забароне атрымання беларускага грамадзянства асобамі небеларускага паходжання. Мне падаецца, што такое капіраванне няўдалага прыбалтыйскага досведу ў гэтым пытанні прывядзе толькі да раз'яднання беларускага грамадства і да адмоўных для нацыянальнай справы наступстваў.

Больш пазітыўнае ўражанне выклікае прапанова гісторыка Алега Трусава аб неабходнасці зрабіць стаўку на беларускую мову — як галоўны фактар нацыянальнай ідэалогіі. Аўтар, у прыватнасці, выказваецца за адкрыццё Беларускага нацыянальнага ўніверсітэта з выкладаннем усіх прадметаў менавіта па-беларуску і за прыняцце новага закона «Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь», па якім кожны беларускі дзяржаўны чыноўнік павінен аднолькава добра валодаць дзвюма дзяржаўнымі мовамі. Гэта прывяло б да таго, што справаводства ў Беларусі паступова пачало б пераводзіцца менавіта на нацыянальную мову.

Асобны блок публікацый зборніка прысвечаны аналізу гістарычных аспектаў развіцця беларускай нацыянальнай ідэалогіі.

У фармаце рэцэнзіі немагчыма ахарактарызаваць усе артыкулы, якія змешчаны ў дадзеным зборніку. Галоўным плюсам выдання з'яўляецца тое, што яно правакуе дыскусію па пытанні фарміравання сучаснай беларускай ідэалогіі. І да гэтай дыскусіі павінны далучыцца ўсе не абыякавыя да лёсу Беларусі людзі.

КУДЫ ІДЗЕШ, МАЯ КРАІНА

# ВАЙНА І МОВА

Віталь ВОРАНАЎ

*«А таму хвораму на грудзі салдату-беларусу, што прывезлі з аўстрыйскага фронту, болей выпадае ляжаць у бальніцы для нервовахворых, чым тут, у нас. Ён ляжыць на Саксанавым месцы.*



*Наша палата празвала яго Рускім, бо ён, калі яго забірае хвароба, крычыць шмат разоў бесперастанку:*

*— Я рускі! Я рускі! Рускі, рускі!..»*

Апавяданне Максіма Гарэцкага «Рускі», бадай, ці не адна з самых першых разбудаваных нацыянальных алегорый у беларускай літаратуры. «Салдат-беларус», які да Першай сусветнай вайны быў «звычайным земляробам Магілёўскае губерні», цяпер у складзе рускага войска змагаецца супраць Аўстра-Венгерскай імперыі, якая 10 жніўня 1914 года абвясціла вайну Расійскай імперыі.

На карысць таго, што задэкляраваны Рускі ўсё ж беларус, сведчыць і факт яго своеасаблівага стаўлення да вайны: «Увечары, першым змрокам, ішоў ён цягацца па зрытых акопамі палях, знаходзіў пустое бульбявішча...» Забрыўшы аднаго разу блізка да аўстрыяцкіх пазіцый, Рускі сустракае Аўстрыяка. Тут жа, аднак, чытач даведваецца, што і Аўстрыяк быццам не зусім аўстрыяк, калі жаўнер упершыню адгукаецца: «Руськый! Я маю горілку...» Дзея, хутчэй за ўсё, адбываецца на Галіччыне, якая ў той час сталася адным з самых вялікіх фронтаў Першай сусветнай вайны, і аўстрыйскі салдат у сапраўднасці, хутчэй за ўсё, украінец.

Беларус-усходнік і ўкраінскі западнец — браты славяне, а адначасна намінальныя ворагі — Рускі і Аўстрыяк, «прывіталіся як даўнія сябры» і селі на зямлю, каб распіць аўстрыякаву гарэлку і выкурыць рускай махоркі. Пасля кароткага частавання незнаёмцы пачынаюць разыходзіцца, і тут ваенны абавязак бярэ верх над асабістымі меркаваннямі. Рускі паварочваецца, нацэльвае стрэльбу і забівае Аўстрыяка. Апавяданне заканчваецца тым, што беларус залечвае фізічнае, а ў большай ступені, відаць, духоўнае недамаганне ў ваеннай бальніцы, калі пачынае трызніць:



«Я рускі! Я рускі! Рускі, рускі!..

— Ну-ну-ну, гэта не столь важна, — гаворыць старшы доктар Рускаму, пераходзячы на другіх хворых і раненых».

Наратар апавядання, назіраючы за гэтай сцэнай, задаецца пытаннем: «Не столь важна! Не вельмі важна, гм!» — думаю сабе я».

І праўда, шмат каму здавалася б, «не прынцыпова», на якой мове размаўляць. «Мова — гэта форма зносінаў». Не больш і не менш. Але да часу, мабыць, пакуль за гэтае «не прынцыпова» і «форму зносінаў» табе страляюць у спіну. Наколькі празорліва было для Максіма Гарэцкага ў 1915 годзе выбраць для свайго апавядання менавіта тых, а не іншых герояў і фармаванні. Ужо трохі больш чым праз два дзясяткі гадоў Аўстрыя з агрэсара пераўтвараецца ў ахвяру Аншлюсу і далучаецца Гітлерам да «Вялікай Германіі». Беларусь і Украіна, кінутыя ў вір Другой сусветнай вайны, зноў змагаюцца ў складзе пераўтворанай Расійскай імперыі.

Сёння Аўстрыя — гэта адзін з самых яркіх узораў дзяржавы, якая «жыве без нацыянальнай мовы». Сёння шмат якія беларусы часта паказваюць у бок гэтай краіны, калі даводзяць рацыю існавання нацыі, якая збудавала дабрабыт, карыстаючыся мовай іншай (прынамсі, намінальна іншай) дзяржавы. Наколькі, аднак, гэтая парадыгма адпавядае беларускай рэчаіснасці? Калі адкінуць некаторыя непрагматычныя аргументы (як, напрыклад, тое, што нямецкая мова, у адрозненне ад рускай для беларусаў, была для аўстрыйцаў роднай ад пачатку, або пра спецыфіку нацыяўтварэння аўстрыйскай дзяржаўнасці і незалежнасці), то нельга забывацца на тое, перад чым нас перасцерагае адзін з найвыдатнейшых беларускіх пісьменнікаў і што пазней у сваіх творах пераўтвараюць на свой лад і Купала, і Караткевіч, і Быкаў — мова ёсць адвечная і нязменная зброя ў руках народа. Можна хіба дадаць, што найлепш пераканацца ў гэтым у мірны час, чым у ваенны.

«Я на свае вушы чуў ад Рускага аб тым, як ён забіў беднага аўстрыяка, і спярша таксама не паверыў: ці мала хітрых бестый бывае паміж салдат. Аднак, я на свае вочы бачыў, у першую ж яго ноч у нашым шпіталі, як ён горка плакаў і жаліўся, што яму ўсё нешта здаецца. Няшчасны, нягледзячы на бром і падскурнае ўпырскванне, заліўся слязьмі так шчыра і жаласна і так доўга, што ніяк не можна было яму не верыць...»

ДЗЕЯ

# ГЕРОІ РЭФАРМАЦЫІ

Эла ДЗВІНСКАЯ

**Гістарычнае шоў-падарожжа да Дня Рэфармацыі адбылося 30 кастрычніка ў Моладзевым тэатры эстрады. Свята пачало адзначацца з 2001 года з ініцыятывы евангельскіх супольнасцяў у Мінску. Сёлета гісторыка-літаратурная рэтраспектыва ахапіла пяць апошніх стагоддзяў еўрапейскага развіцця.**



Фота аўтара

Выразныя касцюмы, адмысловыя постаці герояў, пранікнёныя дыялогі на роднай мове стварылі асаблівую ўзнёслую атмасферу свята. Вядучы спектаклю запрасіў публіку паразважаць над прычынамі росквіту Беларусі ў XVI стагоддзі, над пазнейшай стратай народам веры і тоеснасці.

Дзеянне пачынаецца 31 кастрычніка 1517 года ў Вітэнбергу з абвяшчэння 95 тэзісаў Марціна Лютэра супраць індульгенцый. Пропаведзь Лютэра ўскалыхнула Нямеччыну, Швейцарыю і іншыя краіны. Жывая, непасрэдная вера падштурхоўвала развіццё адукацыі, паляпшэнне гаспадарчай дзейнасці, спрыяла эканамічнаму росквіту.

Князь Мікалай Радзівіл Чорны вызнае перад усім народам сваю веру і запрашае на баль з нагоды пераменаў, што адбыліся ў яго жыцці. Ваявода Віленскі выдаткаваў гадавы прыбытак ад сваіх уладанняў на распаўсюджанне Евангелля. Па яго шляху пойдуць Станіслаў Пац, Васіль Тышкевіч, Габрыэль Гарнастай і іншыя прадстаўнікі шляхты ВКЛ. Францішак Скарына ў чырвоным строі са сцэны разважае са сваім паплечнікам, як бы ён хацеў лекаваць душы чалавечыя ад роспачы, страху і адчаю з дапамогай Слова Божага.

Дзеянне пераносіцца ў XVII стагоддзе ў Англію. Рэфармацыйны рух стаў крыніцай развіцця Англіі, Нямеччыны, Швейцарыі. Пасля перакладу Бібліі на нацыянальныя мовы расквітнела літаратура, сфармаваліся літаратурныя гурткі, да якіх належалі Джон Мільтан, пазней Клайв Льюіс, Даніэль Дэфо. Сын пратэстанцкага пастара Джэймса Фо атрымаў выдатную духоўную адукацыю і адбыўся як выбітны журналіст і прапаведнік у літаратуры.

Акцёры згадваюць пра падарожжа Рабінзона Круза, які літасцю Усявышняга Провіду быў пакінуты жывым, калі яго каманда загінула ў бурным моры. Ён прыходзіць да пакаяння і ўладкавання новага жыцця. Дарэчы, у іншых кнігах герой Даніэля Дэфо падарожнічаў праз Атлантыку да берагоў Канады, Амерыкі, наведваў Расію.



XVII стагоддзе ў спектаклі прадстаўлена праз аповед пра вялікага кампазітара Ёгана Себасцьяна Баха, выхаванага ў лютэранскай традыцыі. Яго творчасць была кульмінацыйным дасягненнем у музыцы тых часоў. Ён напісаў больш за 1000 твораў. Віртуозны майстра арганнай і клавесіннай музыкі падпісваў свае лісты з нотамі: «Аднаму Богу слава». На сцэне — сям'я Бахаў з дзецьмі, якія ганарацца тым, што іх бацька пераўзышоў віртуоза Луі Маршана і стаў найлепшым кампазітарам і арганістам Саксоніі.

Нечакана для гледача XIX стагоддзе паўстае у спектаклі ў аповедзе пра жыццё і дзейнасць прадстаўніка англійскага парламента Уільяма Уілберфорса. Высакародны лорд усвядоміў каштоўнасць кожнага жыцця ў вачах Божых. Ён праславіўся прамовай у парламенце за адмену гандлю рабамі, прысвяціў гэтаму ўсё сваё далейшае жыццё і ўрэшце перамог. Забарона гандлю рабамі была зацверджана ў Брытаніі ў 1833 годзе, раней за адмену рабства ў ЗША.

У межах гэтага сюжэту ў спектаклі брала ўдзел музычная група цемнаскурых выканаўцаў з Нігерыі «Heirs of Christ». Вось што распавёў яе лідар Гедэон Нвачукаў: «Наш гурт запрасілі прадстаўнікі мінскай евангельскай царквы. Мы з сябрамі вучымся ў Гродне ў Медыцынскім універсітэце цягам шасці гадоў. Мы наведваем царкву і спяваем. Дома ў Нігерыі ў мяне засталіся бацькі, тры браты і дзве сястры, тата з'яўляецца пастарам, мама яму дапамагае».

Гурт цудоўна ўпісаўся ў кантэкст пастаноўкі. Афрыканскія сябры выканалі папулярную песню «Цудоўная Ласка», напісаную ў XIX стагоддзі.

З асобаў XX стагоддзя быў прадстаўлены беларускі рэлігійны і грамадскі дзеяч, перакладчык духоўных тэкстаў Лукаш Дзекуць-Малей. Ён актыўна распаўсюджваў Добрую Вестку на Палессі, прапаведаваў у Брэсце, Гродне, працаваў з насельніцтвам вёсак. Рэшту жыцця правёў у Гданьску, дзе ў яго гонар назвалі вуліцу. Кожны з персанажаў пераконвае вынікамі свайго жыцця, служэння Богу і людзям.

Пастаноўка з мэтай зрабіць веру сучаснікаў больш дзейснай аб'яднала некалькі дзесяткаў розных выканаўцаў. Сцэнар для яе падрыхтавалі Наталля Бачкыша, Алена Сітнік і Дар'я Шэйн.

У спектаклі задзейнічаны акцёры Рэспубліканскага тэатра Беларускай драматургіі. Ролю Мікалая Радзівіла Чорнага выканаў спявак Зміцер Козел, які раней браў удзел у падобным мерапрыемстве разам з групай «Тэзаўрус». У Адама Міцкевіча пераўвасобіўся артыст Максім Брагінец, ролю беларускага прапаведніка XX стагоддзя Лукаша Дзекуця-Малея выканаў Зміцер Хведарук. З захапленнем і непасрэднасцю выконвалі свае ролі юныя артысты: Варвара і Мацвей Філіпавы, Адам Бокун, Яна Беленькая і іншыя.

Сола на флейце выканала Наталля Мурзіна з Рэспубліканскага музычнага каледжа.

Завяршыў шоў-вандроўку спевамі з праслаўленнем Айца Нябеснага і светлавымі эфектамі хрысціянскі гурт «Эдэм».

«Беларусы мусяць звяртацца да сваіх традыцыяў, да сваёй гісторыі, да ўсяго самага найлепшага, што ў іх было, пераасэнсоўваць гістарычныя чыннікі, якія прыводзілі не толькі да падзення, але і да ўзлёту. Глыбінным сэнсам Рэфармацыі быў прыход да жывой хрысціянскай веры, — адзначыў намеснік старшыні Кансерватыўна-хрысціянскай партыі БНФ Юрась Беленькі. — Эканоміку робяць людзі з іх унутранымі пачуццямі і натхненнем. Гісторыя паказвае, што краіны, якія сталі на шлях Рэфармацыі, хаця і не былі вельмі развітыя, потым апярэдзілі іншыя дзяржавы ў эканамічным плане. Сённяшняе свята ў карцінах, спевах і чытаннях штрыхамі паказвае гледачам прычыны тых поспехаў».

ВОДГУК

# ВЫШЫВАНКІ Ў НАШЫМ РАДАВОДЗЕ

Уладзімір СОДАЛЬ

**Водгукі на публікацыі з серыі «Чалавек у вышыванцы» атрымліваць прыемна. Апошнім часам шмат хто з нашых дзеячаў культуры тэлефануе мне. Вось, прыкладам, спадар Ян Антанюк.**

— Уладзімір Ілліч? — удакладняе ён, пачуўшы мой голас у слухаўцы.

— Так, — кажу.

— Вам тэлефануе, — чую далей, — Дунін-Марцінкевіч.

— Рады, — кажу я, — пагаманіць з класікам нашай літаратуры, нашай драматургіі. Чым магу быць вам карысны?

— Вы разам з Таццянай Трубач распавядаеце пра беларускія вышыванкі. Дык от! Такую вышыванку маю і я. Вас цікавіць?

— А чаму б і не! Яшчэ лепей напісаць пра гэтую сваю ўкрасу, сваю каштоўнасць.

— То добра! Неўзабаве напішу.

Вось што Ян Ігнатавіч, сумленны беларус, напісаў:

«Я набыў сваю вышываную кашулю на пачатку 1990-х гадоў мінулага стагоддзя. Гэта быў сімвал актыўнага ўдзелу ў нацыянальным адраджэнні. А тое, што я называю сябе ў размове з вамі Дунiным-Марцінкевічам, дык гэта ведаючы вашы прыхільнасці. Дый набыццё маёй вышыванкі неяк звязана з духам Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча: з маім удзелам у спектаклі, прысвечаным славутаму драматургу. Я выконваў галоўную ролю. А наогул, колькі слоў скажу пра вышыванкі ў нашай сям'і.

У 1930-я гады, калі я пачаў асэнсоўваць акаляючы свет, вышыванкі сталі сыходзіць з бытавога ўжытку. Сталі больш даступнымі тканіны фабрычнай вытворчасці, яны былі рознага гатунку і рознай афарбоўкі. Неабходнасці ў вышыўцы адзення як быццам не было. Льняное палатно гаспадыні яшчэ выраблялі ручным спосабам. Яго выкарыстоўвалі для шыцця бялізны. Я ведаю ўсю тэхналогію гэтага працэсу. Ён быў працаёмкі, вымагаў шмат часу. Трэба вырасціць лён, апрацаваць яго, саткаць на кроснах, пашыць. Сям'я ў нас была вялікая — 11 душ (шэсць сыноў і пяць дачок). Жылі ў вёсцы Чэрні Брэсцкага раёна. Клопату ў маці хапала, было не да вышыванак. Дзяўчаты галоўным чынам вышывалі ручнікі, сурвэткі, насоўкі, для падушак навалачкі. Ужо вышыўкай кашуль не займаліся, але памяць пра іх захавалася. Яна зыходзіла ад бабулі Сікліты па мамінай лініі («па кудзелі»). Вышываных кашуль у яе было шмат. І не толькі кашуль, яшчэ іншых вырабаў. На святы і ў царкву яна апранала сваё адзенне. Пасля смерці бабулі яе «багацце» было падзелена паміж дочкамі



Ян Ігнатавіч Антанюк

— Ганнай (маёй маці) і Таццянай. Памятаю добра сваю маці маладую, з фартухом, у святочнай вышыванай кашулі».

**Падрыхтавала Таццяна Трубач**

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар
Кароль Аляксей Сцяпанавіч

Зарэгістравана Міністэрствам інфармацыі РБ. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

ЗАСНАВАЛЬНІК: Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

ВЫДАВЕЦ: Прыватнае выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне №64 ад 12.01.2007 г.

АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА:
220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234.
Тэл. (+375 29) 651 21 12, (+375 17) 268 52 81.
novychas@gmail.com; www.novychas.org

НАДРУКАВАНА ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А.

Замова № 1131

Падпісана да друку 2.11.2012. 8.00.

Наклад 7000 асобнікаў. Кошт свабодны.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.

Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая.

Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы. Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.